

# Партыя — росквіт дзяржавы

Словы А. ДЗЕРУЖЫНСКАГА    Музыка М. ШУМІЛІНА

**Умерана, урачыста**

Ф-п

*f*

Хто вёў нас на біт-ву, хто вёў на зма-ган-не, на штурм капітала ў Кастрычніка дні, хто

нам за-па-ліў зо-раў ве-ліч-ных ззян-не, хто нам за-па-ліў ка-му-ніз-ма аг-ні? Пар-

ты-я рос-квіт дзяр-жа-вы, наш пра-ва-дыр ба-я-вы, пар-ты-я

на-ша-я сла-ва, ле-нін-скі ге-ній жы-вы. 1.2 3 вы.

*sf*

Хто вёў нас на бітву, хто вёў на змаганне,
На штурм капітала ў Кастрычніка дні,
Хто нам запаліў зораў велічных ззянне,
Хто нам запаліў комунізма агні?

Партыя — росквіт дзяржавы,
Наш правадыр баявы,
Партыя — нашая слава,
Ленінскі геній жывы.

Хто дзверы адкрыў нам для творчае працы,
Хто даў нам упэўненасць у нашым жыцці
І хто нас вядзе да багацця і шчасця
Па самаму вернаму ў свеце пуці?

Партыя — росквіт дзяржавы,
Наш правадыр баявы,
Партыя — нашая слава,
Ленінскі геній жывы.

Хто знае і думы, і нашы імкненні,
І разам з народам заўсёды жыве,
Хто свеціць нам ясна, як сонца праменні,
Цяплом нас ласкавым сваім саграе?

Партыя — росквіт дзяржавы,
Наш правадыр баявы,
Партыя — нашая слава,
Ленінскі геній жывы.

На першай старонцы вокладкі: **Свой хлеб асабліва смачны! Лідзія Рынковіч, маладая калгасніца сельскагаспадарчай арцелі «Савецкая Беларусь» (Мінская вобласць) спякла хлеб з мукі новага ўраджаю.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Мацнейшыя фехтавальшчыкі рэспублікі Герман Мацвеевіч Бокун** (злева) **і Анатоль Скрыпаль. Майстар спорту Г. М. Бокун стаў трэнерам зборнай каманды СССР і з'яўляецца ўдзельнікам Алімпійскіх іграў у Мельбурне.**

Фото А. Дзітлава.



Ганна Семянюк і Аляксей Шумілін. Шчаслівага жыцця вам, сябры!

# За здароўе маладых

Фотарэпартаж С. ЧЫРЭШКІНА і А. АСІПЕНКІ

Шчырае каханне заўсёды канчаецца вяселлем. У слесара паравознага дэпо Брэст-усходні Аляксея Шуміліна і ў табельшчыцы гэтага-ж дэпо Ганны Семянюк каханне было і моцным і шчырым, таму не дзіўна, што пра іх хутка загаварылі, як пра шчаслівую пару.

Усе закаханыя рашучыя, часам нават да неразважлівасці. Напаміны жаніху, што ў яго няма кватэры, словы маці нявесты, што яна

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

Снежань.

№ 12(45).

1956.

яшчэ не здолела поўнасцю прыдбаць пасаг, — нішто не спыняла маладых. Яны жартавалі: з мілай па душы рай і ў шалашы. А наконт пасагу: вось ён, паказваючы рабочыя рукі, гаварыла нявеста.

Па-праўдзе кажучы, вялікага вяселля ні нявеста, ні жаніх рабіць не думалі. Лішніх грошай, каб рабіць шыкарныя пагулянкі і пачастункі, не было: абое простыя рабочыя, абое шмат пабачылі ў жыцці нягод.

Бацьку свайго Ганна Семянюк амаль не памятае. З шаснаццаці год ён удзельнічаў у падпольным руху супроць польскіх паноў, сядзеў у турмах, змагаўся. Толькі пасля вераснёўскіх дзён 1939 года сям'я пачала жыць спакойна. Але не доўга прадаўжалася шчасце. Прышлі гітлераўскія орды і закатавалі былога падпольшчыка — выдаў гад-правакатар.

У Аляксея няма ні бацькі, ні маткі. Ён — круглы сірата. Выхоўваўся ў дзядзькі. І цяпер, пасля таго як адслужыў у Совецкай Арміі, жыве там.

Абое з ранніх гадоў прывыклі да працы, абое не па гадах разважлівыя. Можа таму і заўважылі яны адзін другога ў паравозным дэпо...

Але-ж вяселле — гэта такая падзея ў жыцці! Пройдуць гады, многае забудзецца, а гэты дзень застанецца ў памяці назаўсёды. Трэба, каб ён быў яркім! І комсамольская арганізацыя вырашыла вельмі правільна: зрабіць комсамольскае вяселле. А тут выявілася, што ў суседняй і вельмі родственнай арганізацыі — участку спальных вагонаў — выходзіць замуж за сына калгасніка прыгараднага калгаса «Паграпічнік» сакратар камітэта комсамола Галіна Колас. Чаму-ж не аб'еднаць гэтыя два вяселлі? Гарком комсамола ўзяўся дапамагчы сваім пярвічным арганізацыям у правядзенні комсамольскага вяселля.

Пра тое, што на чыгуначным вузле наладжваецца вяселле, хутка даведаліся ва ўсіх комсамольскіх арганізацыях горада. Што грахі таіць, многім хацелася трапіць на такое вяселле. У гаркоме комсамола раілі: уносьце свой пай. Так вяселле выйшла за межы чыгуначнага вузла, зрабілася агульнагарадскім. Стала відавочным, што госці не змесцяцца ў невялікай чыгуначнай сталовай. Прышлося «арандаваць» увесь клуб чыгуначнікаў.

Дайшла вестка пра такую важную падзею і да нас. Мы рашылі пабыць на вяселлі. У паравозным дэпо нам далі адрас Ганны Семянюк. І вось мы на кватэры Ганны. Але яе няма дома. Яна пайшла ў цырульню: вядома-ж, дзяўчына! Маці паказала нам вясельнае плацце, кветкі падзялілася сваімі роздумамі: як яно ўсё будзе!

— Ну што-ж, — сказалі мы, — Пачнем свой рэпартаж з цырульні.

Калі мой сябра з усімі сваімі лямпамі, правадамі, фотаапаратамі з'явіўся ў цырульні, там разгубіліся. Але даведаўшыся, што мы прышлі фатаграфаваць маладую (пра вяселле ўсе чулі, але ніхто не ведаў, што на крэсле сядзіць маладая), усе пачалі дапамагаць нам. Майстар Валянціна Іванаўна Кудра паабяцала, што яна зробіць самую адмысловую завіўку.

Спачатку варта зрабіць завіўку.



І вось мы зноў на кватэры ў Ганны Семянюк. Набліжаецца вечар. Маці і сястра прыбіраюць нявесту. Вось прыколата вясельная кветка. Нявеста гатова ехаць у клуб.

А ў клубе сабраліся госці, таварышы па рабоце, па комсамолу. Вальс змяняецца полькай, полька — бальнымі танцамі. Нехта з дзяўчат запявае песню, яе падхопліваюць сяброўкі. Хлапечых галасоў пакуль не чуваць. Канешне, крыху пазней і хлопцы запяюць, а пакуль яны саромеюцца.

Мы пазнаёміліся з бацькамі другой пары. Бацькі Галіны Колас жывуць у Давыд-Гарадку. Нікалай Іванавіч і Вера Пятроўна толькі што прыехалі ў Брэст, толькі што пазнаёміліся са сваімі сватамі — бацькамі зяця Яўгена Кандрацюка. Бацькі жаніха працуюць у калгасе. Абодва паважаныя людзі.

— Вось так дзеці нас і парадні-лі, — заключае Мікіта Якаўлевіч Кандрацюк, расказаўшы нам, як яго сын Яўген упадабаў комсамольскага сакратара Галіну Колас.

— Маладыя прыехалі, — чутно з вестыбюля.



Да вясельнай сукенкі прыкалваецца кветка. Цяпер нявесту можна везці ў клуб.

Распахнуліся насцеж дзверы, і абедзве пары паяўляюцца ў файэ. Два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі абсыпаюць маладых канфеці, тыя частуюць дзяцей цукеркамі. Бацькі падносяць маладым хлеб-соль, дакоць ім бацькоўскую параду.

У зале расстаўлены сталы. Пачынаецца, як сказаў-бы радыёкаментатар, неафіцыйная частка. Старшыня райпрафсожа Кірыла Мі-



Бацькі Галіны Колас сустракаюць маладых з хлебам-соллю.



Маладым падносілі падарункі.



Пётру Пятроўскаму прыемна і весела сярод дзяўчат.

Нехта на далёкім канцы стала крычыць :«Горка!» Маладыя вымушаны выканаць старадаўні абрад. Нявесты бянтэжацца, сарамліва апускаюць вочы (напэўна дзеля выгляду!).

А за сталом ідзе вясельная бяседа.

Вунь слесар Пётр Пятроўскі трапіў у акружэнне дзяўчат і нічога, не губляецца!

Страляюць коркі ад шампанскага, чутны песні, вясёлы гоман. А фотакарэспандэнты, якія не прапусцілі такое незвычайнае «мерапрыемства», завіхаюцца, каб ухапіць на плёнку самы цікавы момант — празяваеш і не паўторыш кадра. Гэта, мусіць, і здарылася з В. Германам, карэспандэнтам БЕЛТА. Бачыце, як ён угаварвае Галіну Колас і яе мужа адну хвіліначку папазіраваць. Вам, таварышы маладыя, напэўна не ўстаяць супраць яго намаганняў...

Пачынаюцца танцы, гульні. Кожны лічыць за гонар станцаваць з маладымі. А на крэслах, збіўшыся ў групкі, старэйшыя вядуць свае размовы.

Позна ноччу канчаецца вяселле. Па свежым снезе едуць маладыя дамоў. Падаюць мяккія сняжынкі. Хораша на вуліцы. Хораша на душы.

Шчаслівага жыцця, сябры!



«Горка!» — крычаць госці. Нявеста саромеецца.



За здароўе маладых.



Фотакарэспандэнт працуе.

калаевіч Папоў гаворыць пра шчырую дружбу, таварыскасць, віншуе маладых з важнай падзеяй у жыцці.

— За здароўе маладых!

Гэты тост гучыць часта. П'юць не толькі за здароўе маладых, але за ўсіх, хто прысутнічае на вяселлі, усіх, хто малады сэрцам. Маладым дораць падарункі: рэчы, якія ім спатрэбяцца ў жыцці.

— Дарагія сябры, — усхвалявана гаворыць Галя Колас, — мы не забудзем комсамольцаў Брэста, якія-б нас адлегласці не раздзялялі. Нашу дружбу нельга забыць. Шчырае дзякуй нашай комсамольскай сям'і.

*Галасы маладых*

# Ідзе папаўненне

Калі некалькі год назад на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна праводзіўся — упершыню — вечар сустрэчы з колішнімі выпускнікамі, многія студэнты былі здзіўлены, убачыўшы, што добрую палову паважаных гасцей складаюць беларускія пісьменнікі — паэты, празаікі, драматургі, крытыкі. Са школьных падручнікаў было вядома, што ва ўніверсітэце гадоў 25 — 30 назад вучыліся Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус і Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка і Пятро Глебка, а тут выявілася, што студэнтамі філфака былі таксама Максім Лужанін, Алесь Якімовіч, Ілья Гурскі, Васіль Барысенка, Іван Мележ, Мікола Аўрамчык, Алена Васілевіч, Мікола Гамолка... Не выпадкова, што жыццёвая і творчая біяграфія такога вялікага атрада беларускіх літаратараў звязана з універсітэтам. Беларускі дзяржаўны універсітэт імя В. І. Леніна быў і застаецца адной з буйнейшых у рэспубліцы навуковых устаноў, якая папаўняе нацыянальныя кадры працаўнікоў навукі, культуры, літаратуры.

Цяпер ва ўніверсітэце таксама займаецца шматлікая група здольных маладых пісьменнікаў. Дастаткова сказаць, што толькі ў калектыўным зборніку вершаў, які выпускаецца (дарэчы, занадта доўга!) выдавецтвам БДУ, прадстаўлены творы звыш дваццаці студэнтаў-паэтаў. Усе яны ўжо неаднаразова выступалі на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў, а некаторыя з іх вылучаюцца бясспрэчнай свежасцю паэтычнага голасу.

Тры-чатыры гады назад надрукавалі свае першыя вершы Кастусь Цвірка, Генадзі Бураўкін, Юрась Свірко, крыху пазней — Васіль Зуёнак, Рыгор Барадулін, Сямён Блатун, Міхась Шушкевіч. За плячыма гэтых юнакоў-камсамольцаў зусім нязначны жыццёвы шлях: амаль кожнаму з іх не больш дваццаці гадоў. І іменна таму, што гэта моладзь, для яе характэрна нястомнае творчае імкненне, шчырая зацікаўленасць навакольным светам, жыццерадаснасць і бадзёрасць. Але, акрамя такіх агульных прыкмет маладосці, сёй-той з іх, як пачынаючы аўтар, спрабуе выявіць і свой уласны твар, толькі яму прыдатныя рысы характару, паэтычнага тэмпераменту. Генадзію Бураўкіну, напрыклад, уласціва смелае ўтаржэнне ў жыццё, грамадзянскі пафас, непасрэднасць і ўсхваляванасць, напружанасць інтанацый. Юрась Свірко вызначаецца пільным паэтычным зрокам, пранікненнем у з'явы жыцця. Невялікія па памеру, яго вершы — такія-ж сціплыя і мужныя, як і сам аўтар. Рыгор Барадулін шукае сябе — і даволі паспяхова — у жанры сатыры і гумару. Байкі, а таксама сатырычныя і гумарыстычныя вершы Барадуліна заўсёды цёпла прымаюцца слухачамі.

Менш сярод студэнтаў універсітэта пачынаючых празаікаў. Барыс Сачанка, Эдуард Карпачоў, Алег Фомчанка, Васіль Нікалаенка, Алесь Рыбак — найбольш зарэкамендаваўшыя сябе імёны, вылучаныя ў галіне прозы. Апавяданні і мастацкія нарысы іх былі ўжо апублікаваны ў друку.

Летам 1953 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» паявілася першая рэцэнзія Анатоля Клышко, які тады яшчэ не быў студэнтам універсітэта. Пасля гэтага ўдалага дэбюта рэцэнзіі і крытычныя артыкулы А. Клышко пачалі публікавацца ў многіх газетах і часопісах, засведчыўшы, што ў асобе іх аўтара ў беларускую літаратуру ідзе здольны малады крытык, з добрым мастацкім густам і глыбокім разуменнем літаратурных з'яў. Амаль тады-ж пачаў выступаць у друку малады тэатральны крытык студэнт універсітэта Анатоль Сабалеўскі. Яго рэцэнзіі на спектаклі, а таксама артыкулы па пытаннях мастацтва пакідаюць добрае ўражанне і даюць падставу чакаць ад Сабалеўскага сур'ёзных поспехаў у абранай ім цікавай галіне.

Рэкамендуючы чытачам «Маладосці» пачынаючых аўтараў-студэнтаў універсітэта, хочацца сказаць у дадатак некалькі слоў аб тым, што, бадай, з'яўляецца самым радасным. Я маю на ўвазе іх шчырую адданасць любімай справе, іх глыбокую зацікаўленасць лёсам нацыянальнай культуры і літаратуры, іх сур'ёзныя адносіны да сваёй творчасці, як і да жыцця наогул. Гэтая моладзь ідзе ў літаратуру па прызванню, па закліку сэрца, у сілу здаровай і натуральнай цягі да творчай дзейнасці, і ёй ні ў якой ступені не ўласціва нішто з таго, што мы называем карыснымі намерамі, а таксама багемнымі настроямі. Амаль кожны з названых мной юнакоў паспяховую вучобу спалучае з актыўнай грамадскай працай, карыстаецца павагай і аўтарытэтам сярод таварышаў і аднакурснікаў. Кастусь Цвірка, Рыгор Барадулін, Міхась Шушкевіч, Алесь Рыбак пабывалі сёлета на цалінных землях, дапамагалі збіраць ураджай, а Генадзі Бураўкін, Васіль Зуёнак, Сямён Блатун і іншыя шчыра ім зайздросцілі, бо не маглі далучыцца да іх з-за практыкі ў газеце. Такія актыўныя адносіны да жыцця — надзейная зарука поспеху на абранай маладымі літаратарамі пачэснай і нялёгкай дарозе.

Ніл. ГІЛЕВІЧ.

# Параска



Васіль НІКАЛАЕНКА

Апавяданне

Мал. А. Кашкурэвіча.

Летась, перад святам 8 сакавіка, я напісаў рэпартаж аб жанчынах аднаго калгаса. Рэпартаж, як гаварылі, атрымаўся даволі ўдалы. Нават рэдактар, чалавек прыдзірлівы і скупы на пахвалу, які звычайна моршчыўся, чытаючы мае матэрыялы, на гэты раз усклікнуў:

— Хлёстка напісана!

Але я дзеля сціпласці прамармытаў:

— Ды дзе там! Баўтуха нейкая.

— Ну, браце, не прыбядняйся,— запярэчыў рэдактар. — Выдатны рэпартаж. Толькі адзіная загана ў ім: састарэлых жанчын не відаць. Варухні мазгамі, калі ласка, ці блакнот разгарні. Можа, працавітая бабулька знойдзецца. Уцісні яе сюды.

Я не ведаў, ці знойдзецца ў мяне такая бабулька, але аўтарытэтна заявіў:

— Бабулька будзе ў рэпартажы.

Праз хвіліну я ўжо асядлаў стул, абмакнуў пяро і закурыў. Думаў доўга, аднак ніякай бабулькі не мог прыпомніць. Выцягнуў тады зашмальцаваны, абшарпаны блакнот, пачаў церабіць яго, перагортваць старонкі, але і паважаны блакнот аказаўся не на вышыні. Прозвішчаў з таго калгаса, аб якім я пісаў, было многа, ды, нажаль — ніводнай бабулькі сярод іх, а ўсё дзяўчаты. Праўда, у блакноце было прозвішчаў гэтак з дзесяць, супроць якіх увогуле нічога не было напісана. З боку іх стаяла толькі адна адзіная заўвага: «перадавікі вытворчасці». Можа, сярод іх былі і бабулькі. Хто ведае? Каб не губляць марна часу, я ўссеў на провад, але металічны голас сувязісткі адрэзаў: — У праўленні няма тэлефона.

Рыпнулі дзверы і, нібы нож у сэрца, голас рэдактара:

— Ну як, уціснуў?

— Не зусім яшчэ, але ўціскаецца, — разгублена адказаў я.

— Спяшайся, бо нумар затрымліваецца, — кінуў рэдактар і выйшаў.

Я зноў схапіў блакнот, знайшоў тыя дзесяць прозвішчаў і стаў іх вывучаць.

І раптам мая ўвага спынілася на Парасцы Дубковай. Я ўскочыў і даволі гучна шлёпнуў сябе па ілбе.

— Вось яна, бабулька! — вырвалася ў мяне. — Ну, і доўбня, — пачаў я папракаць сам сябе. — Няўжо раней нельга было здагадацца, што Параска — самае старадаўняе імя. Яно ўжо амаль знікла з нашага побыту, а калі і захавалася, то за старэнькімі бабулькамі, якім паміраць і Параскай не сорамна. Я сеў і адным махам напісаў:

«У кар'еры, дзе маладыя дзяўчаты дзяўблі торф, мы спаткалі старэнькую бабульку Параску Дубкову. Хутка ёй стукне восемдзесят — самы час на печ забірацца. Але яна працуе, рук не пакладаючы. Глядзіш на яе згорбленую постаць, на сівыя валасы і хочацца сказаць вялікае дзякуй гэтай

сумленнай і самай старой жанчыне ў калгасе.»

На другі дзень мяне віншавалі супрацоўнікі з удачай. Апроч хвалебных слоў нехта выказаў думку, што такі шэдэўр і замачыць не грэх. Я быў так расчулены, што не стаў адпірацца і павёў хлопцаў у чайную. Я ўпершыню адчуў, што пяро маё не пазбаўлена майстэрства і, ахоплены натхненнем, сеў аднойчы вечарам пісаць аповесць. Я акуратна вывеў загаловак, зрабіў указанне на жанр і стаў ламаць галаву над уступам. Лоб мой ад натугі зморшчыўся, нібы мяхі ў трохрадцы, але выцiснуць якую-небудзь думку не ўдавалася. Пыхцеў і корчыўся я ў пакутах творчасці, як раптам бразнула клямка, і на парозе ўзнікла постаць пасыльнага. Я ўскочыў, каб спаткаць госця той ветлівасцю, ад якой адчыняюць дзверы ўласным чэрапам. Падумаць толькі! Ён-жа знявечыў музу, якой я збіраўся даць прытулак у сваёй кватэры. Аднак-жа, як і ўсе вялікія людзі, я стрымаўся і спакойна спытаў у пасыльнага:

— Чаго табе?

— Выклікае рэдактар,— адказаў ён і знік за дзвярыма.

Злосць маю нібы рукой зняло. «Згары яна, аповесць,— падумаў я.— Пакуль яе спячэш, ссівець можна. Лепш нарысы пісаць.— І я прыгадаў Авечкіна.— Але мая сапраўдная стыхія — рэпартаж. Сам рэдактар зараз лапу мне пацісне».

Я нацягнуў макінтош, успіхнуў капялюш на патыліцу і праз дзесяць мінут быў у рэдактара.

— Прывітанне,— сказаў я тонам чалавека, які знаёмы з вяршынямі Парнаса, і сунуў рэдактару пецярню.

Але яна так і павісла ў паветры, таму што рэдактар не ўзняў на мяне вачэй і, натуральна, не мог яе заўважыць. Ён прывітаўся са мной ледзь прыкметным кіўком галавы і працягваў чытаць «Огонек». Мне зрабілася няёмка, я хуценька апусціў руку і моўчкі пiхнуў сваё тулава ў крэсла.

Нарэшце, рэдактар адклаў часопіс, пазяхнуў да хрусту ў скiвіцах і з-пад абвіслых брывей абмацаў мяне позіркам. Твар у яго быў злосны і меў самае блізкае падабенства да навальнічнай хмары, з якой вось-вось грымне пярун. Карацей кажучы, я зразумеў, што ніякіх урачыстасцей і пацiскання рук не адбудзецца.

— Паедзеш да сваёй бабулькі,— працадзіў рэдактар.

— Да Парaскі?— падхапіў я, і вочы мае лып-лып.

— Так, да Парaскі,— працягваў рэдактар. Але голас у яго быў шурпаты, як у пракурора, і здавалася, што ён чытае прысуд.— Ты яе адкрыў, табе і карты ў рукі. Будзеш пісаць нарыс.

Я сумеўся і заўважыў, што Параска, можа быць, не падыходзіць для нарыса.

Але рэдактар сказаў:

— Што ты, мілы мой? Гэта-ж знаходка. Аб такой бабульцы грэх не напісаць.

Я прывык заўсёды схіляць галаву перад чужым меркаваннем, асабліва, калі яно рэдактарава. Таму і на гэты раз не палез на ражон, а ў той-жа час згадзіўся, што Параска і сапраўды — бабулька арыгінальная і пісаць аб ёй можна.

— Калі ты думаеш адправіцца? — спытаў рэдактар.

— Заўтра на досвітку,— выпрастаўся я.

— Вось і добра. А ці напішаш? — глянуў на мяне рэдактар і неяк хітравата прыжмурыў вока. Нешта таямнічае хавалася ў ягоным позірку. Мяне аж скаланула. Але я набраўся мужнасці і адказаў:

— Спадзяюся: я-ж не навічок у гэтай справе.— Мне вельмі карцела дадаць, што я нават у больш буйных жанрах спрабую сілы — аповесць пішу, але прыкусіў язык і падумаў толькі: «Такі нарыс адгрохаю — свет не бачыў. Мудрэй, чым у Авечкіна!»

Ад рэдактара выйшаў з прыўзнятым настроем. Пахмуры выгляд начальніка мяне ніколечкі не бянтэжыў. «Можа, з жонкай пасварыўся»,— падумаў я.

Назаўтра а дванаццатай гадзіне я ўжо быў у калгасе, дзе жыла мая старэнькая гераіня. Дабіраўся туды на тым агульнадаступным транспарце, які называецца адзінаццатым нумарам. Прытупаў у калгас — і адразу-ж у праўленне. Угледзеў там бухгалтара, дзябёлага мужчыну без акуляраў, з ім я ўжо быў трохі знаёмы. Мы парукаліся і завялі гутарку. Мне хацелася хутчэй даведацца, якое ўражанне зрабіў мой рэпартаж на калгаснікаў, таму я і павярнуў размову ў гэтую каляіну. Бухгалтар усміхнуўся ў чорныя, нібы друкарская фарба, вусы і сказаў:

— Ну, і намалявалі вы там! Парасцы цяпер праходу няма.

— Чаму? — насцярожыўся я.

— Не ведаю, браце,— ухіліўся бухгалтар ад прамога адказу.— Вось пабачыш Параску і пагавары з ёй сам.

— А яна мне якраз і трэба,— ажывіўся я.— Дзе яе хата?

Бухгалтар даў мне сістэму арыентыраў. У якасці асноўнага назваў студню, супраць якой і жыве Параска.

Я падзякаваў бухгалтару і падаўся да парасчынага двара. Па дарозе мне сустрэлася нейкая бабулька. Яна была згорбленая і з сівымі пасмамі валасоў. Амаль такая, як у маім рэпартажы. Я спыніў яе і запытаўся, ці не Параска яна Дубкова. Але старая сказала, што не, яе завуць Хадорай. Я раскланяўся і рушыў далей. Каля студні спыніўся і, агледзеўшы пяцiсценку, што стаяла насупраць, узышоў на ганак. Сэрца маё трапяталася, як той верабей у сілку. Нешта нядобрае чула. Зайшоў у сенцы і пастукаў. Нехта мілагучна адказаў: «можна». Я адчыніў дзверы і аслупянеў ад захаплення. Пасярод пакоя стаяла прыгожая чарнявая дзяўчына і гасцінна ўсміхалася. Было ёй год семнаццаць, не больш. Такой прыгажуні я не сустракаў яшчэ і нават пашкадаваў, што рана ажаніўся. «Ну і дачка ў Парaскі,— падумаў я.— Вось аб ёй-бы нарыс катануць!»

— Ці тут жыве Параска Дубкова? — спытаў я, калі трохі сабраўся з духам.

— Тут,— ускінула дзяўчына бровы.

— Ваша маці, так?

— Не, гэта я.

— Тады даруйце. Я памыліўся хатай. Мне патрэбна бабулька Параска Дубкова.

— У нашай вёсцы няма больш Парасак,— адказала дзяўчына, і твар яе зрабіўся строгім.— Дарэчы, хто вы будзеце?

— Супрацоўнік раённай газеты,— адрэкамендаваўся я.

Тады дзяўчына крута павярнулася, падыйшла да стала і ўзяла газету.

— Ваша работа? — тыцнула яна пальцам у мой рэпартаж.

— Мая... але, разумееце... я ўсё растлумачу зараз,— разгублена пачаў я.

— Дык гэта вы? Вы?!.— крыкнула дзяўчына і такім позіркам паглядзела ў чапялешнік, што я даў задні ход і адчыніў дзверы патыліцай.

«Ну, і Параска,— думаў я, пакідаючы вёску.— Вось гэта бабулька! А як-жа з нарысам? Што я скажу рэдактару?»

Аб гэтым я думаў усю дарогу і толькі перад кабінетам рэдактара знайшоў выхад. «Выкручвайся ўжо да канца»,— падбадзёрыў я сябе.

— Ну, што? — спытаў рэдактар, калі я зайшоў да яго.

— Спазніліся мы,— трагічна прамовіў я.— Параска Дубкова адыйшла ў нябыт.

— Як?

— Яна памёрла ўчора ад разрыву сэрца,— і я, апанаваны смуткам, зняў капялюш, быццам перада мной стаяла труна з нябожчыцай.

Рэдактар блізка-блізка падыйшоў да мяне і ў самыя вочы крыкнуў:

— **Вон!**

Я хацеў нешта сказаць, але папярхнуўся. У гэтую хвіліну я ўсё зразумеў. Рэдактару, відаць, пазванілі, што ніякай бабулькі Парaскі Дубковай не існуе. І ён знарок накіраваў мяне туды, каб я расхлябаў кашу, якую заварыў. І маё сумленне заадно праверыць.

— Вон! — паўтарыў рэдактар і аж пасінеў ад гневу.

Я выкаціўся з кабінета, як ашпараны, а рэдактар з шумам зачыніў за мною дзверы.



**Студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта члены літаратурнага аб'еднання абмяркоўваюць свае творы.** На здымку: злева направа (за сталом) — **Б. Сачанка. В. Чамярыцкі, З. Барысік, Г. Бураўкін. Н. Еўціхінчык;** стаяць **А. Клышко, Р. Барадулін і К. Цвірко.**

# В Е Р Ш Ы

Рыгор БАРАДУЛІН

## НАД ВОЗЕРАМ

Конікі — начныя матарысты —
Завялі свае рухавічкі.
На экране возера ўрачыста
Праплывае дзіўны фільм такі.

У люстэрка вод глядзяць бярозкі,
Быццам карагод дзяўчат-красунь,—
Як мадней навесці ім прычоскі,
Як заплесці зоркі у касу.

Вось стаіць на полі у пшаніцы
Стройным кавалерам дужы дуб.
І яму сягоння штосьь не спіцца,
Зухавата распусціў свой чуб.

Лье святла няспынныя патокі
Месяца чароўны аб'ектыў.
І ад захаплення у затоках
Не паварухнуцца чараты.

Ды парою лешч хвастом плёхне,
Ажно пойдуць абручы-кругі.
А навокал гэтак слаўна, лёгка!
Пахне мята, хмеляць мурагі.

Часам качка ўскрыкне нечакана
У кустах далёкіх дзе-ні-дзе.
Эх, як хораша ўдваіх з каханай
Фільмы ночы жнівеньскай глядзець!

Юрась СВІРКО

## НАШЧАДКАМ

Нашчадкі нашы скажуць калі-небудзь,
Што намі зроблена не ўсё магчымае,
І што не ўсё мы пакарылі неба
Над сваёй любімаю Айчынаю.
Яны па кнігах толькі прачытаюць
Пра нашы дні суровыя, вялікія

І будуць доўга вывучаць іх, знаю,
Як у музеі рэдкую рэліквію.
Хачу я, каб яны не забывалі,
Што нам свабода дасталася дорага:
Адной рукой мы край свой будавалі,
Другою-ж — адбіваліся ад ворагаў.

Іван СІПАКОЎ

## БУРА

Яна злавалася, раўла
На ўскраі гаю маладога
І, сілу бачачы ў ствалах,
Кідала зноў сюды падмогу.

Не змог далей трымацца дуб,
Стаяў што воддаль адзінока,
І ўпаў... Цяпер яго чуб
Не ўбачыць вольных больш аблокаў.

Са злосцю новаю тады
На дрэвы кінулася бура:
Як не зламаць ёй маладых
Такою сілаю віхурнай.

А гай прыглушана гудзеў,
Галіны глуха так шумелі,
Нібы з прыціснутых грудзей
Праз зубы стогны дрэў ляцелі.

Ды ўбачыўшы, што ўсё дарма,
Што не зламаць ёй волі гаю,
Вятры суняла і сама
Прыціхла бура каля краю.

І там дзівілася адна,
Што на'т пярэднія не ўпалі...
Відаць, не ведала яна,
Што ззаду ў іх сябры стаялі.

Кастусь ЦВІРКА

## ЗАЛАТЫЯ ПРЫІСКІ ЛЯ ДЖЭТЫГАРЫ*

За Джэтыгарою — стэп бясконцы.
Кажуць, тут — аж пот з рабочых ліў —
Некалі з Расіі прамыслоўцы
Здабывалі золата ў зямлі.

І стаіць, як сведка, ля Табола
Перамытага пяску гара.
Зараз мы з пуцёўкай комсамола
Да цябе прышлі, Джэтыгара!

'Шчэ не ўсё тут вычарпана з ілу,
Многа тут дабра яшчэ ляжыць.
Глянь: пшаніца ў стэпе урадзіла,
Колас к коласу — зямля звініць!

Мы рашылі ўсё сабраць, да зерня.
За лапату — і шуруй тады!
Хай спіны ад болю не павернеш,
А прыўстань: растуць буртоў рады!

Мо' паблізу будзе джэтыгорац
На пабыўку крочыць праз палі,
Ён убачыць нечакана горы:
Пэўна, зноў тут золата знайшлі!

* Джэтыгара — раённы цэнтр Кустанайскай вобласці.



Нядаўна ў рэдакцыі часопіса «Маладосць» адбылася нарада маладых літаратараў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна. На нарадзе абмяркоўваліся пытанні ўдзелу літаратурнай моладзі ў рабоце часопіса. На здымку: удзельнікі літаратурнага аб'еднання з работнікамі рэдакцыі.

Генадзі БУРАЎКІН

## ПОЛАЧЧЫНА

Не шукайце экзотык за морамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі —
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чародкі гусіныя,
А на дне Млечным шляхам свецяцца
Касякі і гурты карасіныя.

Тут крыніцы цурчаць мілагучныя,
З гор бягуць ручаі грымучыя.
Тут над Дрысай сасонкі звонкія,
Над Дзвіною бары пявучыя.

Тут вясёлкамі сонца акружана,
Усміхаецца з кожнай лужыны.
Тут на кожнага закаханага
Салаўёў па чатыры тузіны.

Вечарамі баян з пералівамі
Ціха шэпча песні чуллівыя.
Тут дзяўчаты з косамі русымі,
Чорнабровыя ды смяшлівыя.

Тут на нівах ільны двухметровыя,
Тут сады налівамі поўныя.
Тут пад кожным курганам і каменем
Ці быліны, ці казкі чароўныя.

Дык навошта шукаць за морамі
Вам экзотык з крыштальнымі зорамі —
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

* * *

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягне, нібы магнітам, мяне да ракі.

У яе глыбіні, на экране пяскоў
Цэлы дзень разглядаў-бы язёў, шчупакоў.

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягнуць, нібы магнітам, мяне сасянякі.

І гатоў слухаць я ад зары да зары
Перашэпты вяршалін густых угары,

Слухаць дзятла працоўны размераны стук,
Чуць, як проста з-пад ног сыраежкі растуць,

І адчуць, што і ты не чужы на зямлі,
Што гараць на далонях тваіх мазалі.

Цягнуць штосьці мурашкі па згінуўшым карчы,
І карціць мне мурашкам малым памагчы.

А над гэтым усім ля хмурынак-пярын
Льецца жаўранка звонкая песня ўгары.

Песню слухаюць сосны, язі і грыбы...
Каб не быў чалавекам, я птушкаю-б быў.

Углядзўся-б у сінія хвалі ракі,
Чуў, як шэпчуцца глуха ўсю ноч сасянякі.

І спяваў-бы нястомней за ўсіх і званчэй,
Каб рабілася людзям ад песні лягчэй.

Каб шпарчэй узнімаліся ўвысь сасянякі,
Каб віры абміналі ў рацэ шчупакі...

Я не знаю, удаўся ў каго я такі...



# Плынь

Барыс САЧАНКА

Апавяданне

Мал. А. Кашкурэвіча.

У хаце душна, як у парні. Мухі і тыя памлелі і перасталі гудзець. Не вытрымаў і Мікола — выйшаў. Яшчэ апоўдні, калі Галя развіталася з жанчынамі, ён даў сабе слова не паказваць увечары і носа на вуліцу. Аднак не сцярпеў.

Адразу-ж яго пацягнула да рэчкі Валуніхі, туды, дзе невысокай грыўкай чарнеў у вячэрняй шэрані бярэзнік. Тут, каля бярэзніку, лянівая, вяртлявая плынь сутыкалася з вялізнымі рыжаватымі валунамі, якія перагароджвалі ўсю шыр ракі, разбівалася, пенілася, бурліла, шумела. Гэта было яго любімае месца. Сюды часта прыходзіў ён пасля працы падыхаць свежым паветрам, памарыць у адзіноце, падумаць аб рабоце брыгады. Тут яны сустракаліся з Галяй. Калі гэта было? Міколу здалося, прайшло ўжо гадоў са два, хаця пасля апошняй іх сустрэчы і двух тыдняў яшчэ не мінула. А колькі трывожных думак узнікла за гэты час!

Мікола прысеў на вільготны аксаміт берага, звесіў адну нагу да вады, каленам другой падпёр падбародак і задумаўся. Хіба ёсць яшчэ дзе-небудзь такая мілая, харошая дзяўчына, як Галя. Не, такой няма нідзе. Яна адна. І яна сёння паедзе, паедзе далёка адсюль, аж у Горкі, у сельскагаспадарчую акадэмію. І больш ніколі не прыедзе ў Слабодку. А ён нічога ёй не сказаў. Хіба-ж можна хутка прызнавацца ў каханні? Ды і хто паверыць у гэта? Вунь з Юрася ўсе смяюцца, што ён прызнаецца ў першы вечар.

Мікола ўстрапянуўся. Дзе-ж сёння Юрась? Няўжо ён з Галяй? Нешта не чуваць яго баяна. Чатыры вечары ўзапар не змаўкае аж да світання яго сумны голас. Юрась, відаць, сумуе таксама перад ад'ездам Галі. Дзе-ж ён?

Мікола прыслухаўся. Смех, жарты, прыпеўкі — дзяўчаты і хлопцы ідуць у клуб.

— Юраська, а Юраська? Мо' ў клуб пайшлі-б? Сыграў-бы што-небудзь вясёлае, Юраська, а? — такі ласкавы, тонкі, нібы камарыны звон, голас.

Адказу не чуваць. Другі, трэці — мякчэйшыя галасы. Юрася просяць, а ён знарок, відаць, маўчыць. І ўжо разззлавана:

— Ды кіньце вы яго прасіць. Сёння-ж аграномша едзе. Як ні як, а каханка-ж.

Гэта кпіць Зоська.

Мікола думае і ўсё ніяк не можа зразумець характар Юрася. Дзесяцігодкі не скончыў, на камбайнера пайшоў вучыцца.

— Не ўсім-жа чырвонымі алоўкамі чыркаць па палях паперак. Трэба-ж і хлеб камусьці расціць.

А хіба Мікола не росціць хлеб, хаця ён і дзесяцігодку закончыў і ў тэхнікуме вучыцца завочна?

Купіў Юрась баян, гарэлку навучыўся піць.

— Як-жа баяністу не піць. На вяселле ці на радзіны запросяць, сядзі за сталом ды вачыма лыпай. А так разам з усімі і чарку кульнеш, весялосці людзям дасі больш.

А дзяўчатам падабаецца Юрась. Ледзь толькі новая дзяўчына пераступіць парог клуба, глядзі — ужо не адводзіць вачэй ад чорнага, нібы смоль, ускудлачанага чуба Юрася. А ён знарок прабяжыць па белых гузіках галасоў знізу ўверх пальцамі, схіліць на баян кучаравую галаву, нажме на басы, ды як урэжа польку — хто тут стрымаецца, каб не пайсці ў круг. Потым аддасць баян Максіму, а сам ідзе выбіваць гапака. Як ходзяць у яго ногі? Люба глядзець. Кожнаму хочацца выйсці ды прыстукнуць гэтак-жа. І якое сэрца, якая душа пройдзе міма, каб не залюбавацца такім танцорам. Хіба-ж не закахалася ў яго сінявокая звеннявая Зоська? Ніхто да яе не мог падступіцца, а ў Юрася ледзь справы да вяселля не дайшлі. Ды на табе — прыехала Галя, ён і забыўся на Зоську. Толькі смяецца:

— Хіба як пастаяў вечароў колькі з дзяўчынай, дык гэта вялікі грэх.

Мікола пачынае ўспамінаць сустрэчы з Галяй, і па душы цячэ прыемная асалода.

Была на дзіва свежая, росная раніца. Мікола ішоў у праўленне і яшчэ здалёк убачыў на мосце дзяўчыну з непакрытай галавой у светлым лёгкім паліто. Яна сядзела на чамадане і глядзела, як выкатваецца з-за лесу сонца і як яно палівае роўнядзь ракі чырванню. Мікола спяшаўся і асаблівай увагі дзяўчыне не аддаў: «Хіба-ж мала людзей ходзіць праз мост». Апусціўшы галаву, моўчкі ён ужо мінуў мост, як за спіной пачуў:

— Дзядзя, дзядзя! Пачакайце.

Дзядзем клікалі яго ўпершыню, і Мікола спыніўся. Здзіўлены позірк пранізаў дзяўчыну — яна была мо' на год-два маладзейшая за яго. Дзяўчына гэта адчула таксама, як толькі «дзядзя» павярнуўся да яе тварам. Твар яе заліла густая чырвань.

— Вы не скажаце...— дзяўчына разгубілася.— Вы не скажаце, як дайсці да праўлення?

— Чаму-ж не. Нават правесці магу, цёця. Якраз туды іду, — і твар яго асвяціўся ўсмешкай.

Мікола быў у добрым настроі і ўсю дарогу жартаваў з «цёці». Даведаўшыся, што Галя прыехала на практыку ў калгас, Мікола па дарозе адвёў яе на кватэру да сваёй цёткі Гарпіны. Увесь гэты дзень яму карцела зноў убачыць Галю. Пасля працы ён старанна і доўга галіўся, мыўся, нібы збіраючыся на нешта незвычайнае. У клубе былі танцы. Юрась зайграў вальс. Мікола папрасіў Галю. Хоць і не дужа вялікім танцорам у сяле лічыўся Мікола, аднак на гэты раз танцаваў найлепш. Ён нават не заўважыў, калі Юрась закончыў іграць і як з хітрай цікаўнасцю пазіралі на брыгадзіра вясковыя дзяўчаты, якія без музыкі прадаўжаў усё кружыцца і кружыцца. Не заўважыла канца і Галя. Агледзелася яна тады, калі апрача іх з Міколам у крузе не было нікога. Яна вырвалася з рук Міколы і выбегла з клуба. Ці то ад непрывычкі падоўгу кружыцца, ці ад чагосьці іншага, у Міколы трошачкі закруцілася ў галаве, нібы пасля хмелю. Следам за Галяй ён выйшаў з клуба, бо адчуў вострыя позіркі вясковых дзяўчат.

Здалёк, быццам грукат колаў па грэблі, данесліся раскаты грому. Набліжалася навальніца, і ўсе заспяшаліся дамоў.

Мікола ішоў побач з Галяй. На душы бурліла, кіпела штосьці надзвычай радаснае, вясёлае. Гэта-ж першы раз ён ішоў побач з дзяўчынай з клуба. Спыніліся каля гарпінінай хаты. Галя міла, цёпла глянула на яго.

— Ты не будзеш крыўдзіцца, Мікола, калі мы дамоў зараз пойдзем? Бачыш, на дождж збіраецца. Абмокнеш... Мы заўтра з табой пагутарым. Добра? Я-ж яшчэ тут цэлы месяц буду,— ласкава, ледзь чутна вымавіла яна і падала сваю руку. Міколу яна здалася такой маленькай, кволай, што ён, не кажучы ні слова злёгку пацісную яе. Дзяўчына войкнула. Яшчэ раз глянуўшы на Міколу, Галя схавалася за веснічкамі.

Аднойчы Мікола папрасіў Галю прыйсці на спатканне да ракі. Яна згадзілася.. Хлопец амаль на гадзіну прыйшоў раней. У гэты вечар Мікола ледзь прыкметна прытуліў Галю да сябе.

— Не трэба, Мікола...— Дыханне яе стала няроўным. Яна не вырывалася з яго абдымкаў, і Мікола прастаяў вечар, прытуліўшыся да яе, ціхенька, ледзь чутна размаўляючы. Ім было так добра, радасна ўдваіх. Пасля гэтага ён часцей пачаў сустракацца з Галяй каля Валуніхі, дамоў вяртаўся толькі на світанні.

Неяк, ідучы з клуба, Галя спытала пра баяніста. Юрась дружыў з Зоськай, і ў ім Мікола не бачыў свайго суперніка. Ён ахарактарызаваў Юрася з найлепшага боку. Пасля гэтага вечара ў клуб Галя пачала прыходзіць пазней, часцей стала спыняцца каля камбайна, падоўгу гутарыць аб чымсьці з Юрасем. А Юрась на працу пачаў прыходзіць у новых, хромавых ботах, шэрай кепцы-шасцiклінцы, у касцюме, які раней надзяваў толькі зрэдку ў святы.

Мікола адчуваў, што робіцца нешта не тое. Але ён ведаў, што каханне без рэўнасці не бывае, а яе ён баяўся, як агню. І ўсе свае перасцярогі ён лічыў толькі нараджэннем рэўнасці.

Можа соты раз успамінае Мікола Галю і кожны раз спыняецца на гэтым.

...Толькі што з ветрам, громам і бліскавіцай пранеслася навальніца. Радасна засмяялася сонца, і ўсё заблішчэла, заіскрылася, ажыло.

Мікола радаваўся, што праз якую гадзіну жыта абсохне і можна будзе прадаўжаць жніво. Вечар яшчэ далёка, жыта не многа, і да вечара з ім будзе пакончана. Ён сядзеў у кругу дзяўчат, якія павылазілі з капы саломы, куды схаваліся на час дажджу. Дзяўчаты з усіх бакоў насядалі дружна на брыгадзіра.

— Мікола, а Мікола. А я ведаю з кім ты ажэнішся,— загадкава паглядаючы, гаварыла звенявая Зоська.

— Ну? А я вось і не ведаю. Скажы мне, Зоська,— прасіў Мікола.

— Ты гэта на Галю намякаеш, Зоська?— спытала дачка рахункавода Зіна.— Ох, што ты. Не з яго носам. Перад ёй цяпер Юрась калясіць. У таго толк будзе...— дзяўчаты аж зайшліся ад смеху. Цётка Гарпіна сказала, што як прыехала Галя, Юрася з хаты не выкурыш: то яму кніга трэба, то чорт, то д'ябал. Вечар у вечар ідзе.

«Дык вось чаму Галя пачала пазней прыходзіць у клуб, часцей спыняцца каля камбайна»,— нечаканая здагадка з'явілася ў Міколы.

Але каб не падаць выгляду, што ён надта ўстрывожаны навінамі, Мікола кідае дзяўчатам весела: «А ну вас...» — і абняўшы Зіну і Зоську, падае з імі ў салому. Астатнія дзяўчаты падхапіліся і пачалі кідаць салому ім наверх, Мікола раззлаваны зафыркаў, закруціліся, нібы ўюны на гарачай патэльні, дзяўчаты. А вакол смех, жарты, рогат.

— Э-э, дык гэта Мікола ў саломе весяліцца,— данесліся скрозь шоргат саломы да Міколы словы. Іх сказала ні то ўсур'ёз, ні то жартам Галя, якая незаўважана падыйшла збоку да дзяўчат.

Смех і жарты змоўклі.

— Нядрэнна. А таго, відаць, брыгадзір і не ведае, што другая і першая брыгады вянок панеслі старшыні,— дадала яна.

Мікола падхапіўся. Як? Другая і першая брыгады ўперад дажалі за яго? Галя яшчэ ніколі не маніла, і ён паверыў яе непраўдзівым словам. Не абцярушыўшы саломы і асцюкоў, якія цэпка прысталі да вопраткі, ён бягом накіраваўся да камбайна.

Каля камбайна не было відаць нікога. Недалёка стаялі хромавыя боты, на перылах матавіла віселі, нібы парусы, мокрая кашуля, наскі, пінжак. Ад іх падымаўся пар. З-пад камбайна тырчэлі босыя ногі Юрася, чуўся лязгат.

— Юрась, Юрась, заводзь камбайн хутчэй. Хоць норму дай да вечара,— запыхаўшыся ад шпаркага бегу, крыкнуў Мікола.

Юрась яшчэ мацней застукаў ключом. Потым паказалася з-пад камбайна ўскудлачаная галава, чырвоны ўспацелы твар, запэцканая цяльняшка. Абапёршыся на рукі, вымазаны па локці ў мазуту, Юрась прыпадняўся.

— Не магу, таварыш начальнік. Паломка. Зерне сыплецца. Ды і жыта мокрае. Куды-ж яго жаць — вада.

— А ну, дубіна, вылазь з-пад камбайна. Досыць лынды біць. Другія камбайнеры па дзве нормы даюць, а ты адной ніколі не даў. Праз цябе сёння я яшчэ жыта не дажаў.— Мікола сам не ведаў, адкуль у яго ўзялася злосць.

— А мая якая справа! Яшчэ каб ціха-мірна папрасіў, сказаў, што, вось бачыш, так, гэтак, таварыш камбайнер. Падсабіць, моў, трэба,



прарыў. Паехаў-бы, чорт з табою. А так — заводзь сам, калі дажаць хочаш сёння...— і, бэкнуўшы па-баранячаму, Юрась хацеў быў шмыгнуць зноў пад камбайн.

— Хто гэта баран? Я?! Лайдак ты, гультай сусветны... Упрошваць яго трэба. Я вось цябе ўпрашу,— і Мікола ледзь не паддзеў камбайнера наском свайго кірзавага бота.

Юрась выпрастаўся, сашчапіў кулакі і сярдзіта глянуў на Міколу. Пасля, падумаўшы, завёў камбайн і ўжо з мосціка крыкнуў:

— Хай. А за хуліганства адкажаш. На сходзе адкажаш. Маўчаць я не буду,— і, уключыўшы хуткасць, павёў камбайн па полі.

Не паспеў Мікола дабегчы да дзяўчат як пачуў, што камбайн зафыркаў і спыніўся. Мікола агледзеўся — каля камбайна стаяла Галя і аб нечым спакойна гутарыла з Юрасем. «І яна, значыць, заадно з ім». І Мікола яшчэ здалёк крыкнуў:

— Хто вам даў права адмяняць нарад брыгадзіра?

— Як будучы аграном і як комсамолка, жаць мокрае жыта я не дам,—нічуць не палохаючыся крыку, сказала Галя.— І так ідзем не апошнімі. Яшчэ тыя брыгады і праз два дні не закончаць.

Але гэта ўжо не магло стрымаць злосці. Мікола збялеў:

— Аграном... Комсамолка. Я гаспадар і я адказваю за ўсё. Вы не вырошчвалі, вы і не распараджайцеся...

Аднак Міколы ніхто не слухаў. Жнеі, убачыўшы вялізную чорную хмару, якая павольна выпаўзала з-за лесу і ўсё ніжэй і ніжэй апускалася, пабеглі дамоў. Галя, як ні ў чым не бывала, прадаўжала гутарыць з Юрасем.

А вечарам на комсамольскім сходзе Юрась выклаў усё, што толькі меў злога на брыгадзіра. Мікола спрабаваў апраўдвацца, але дзе там — яго мала хто слухаў. Ледзь з комсамола не выключылі. А хіба-ж ён ва ўсім вінаваты? Колькі разоў перадумвае Мікола і ўсё ніяк не вырашыць гэтага пытання.

На сходзе Галя прапанавала арганізаваць самадзейнасць і, што больш за ўсё дзіўна, Юрась згадзіўся стаць кіраўніком, хаця раней нізавошта не згаджаўся. Пасля гэтага сходу Мікола пачаў цурацца Галі, баяўся адкрыта глядзець ёй у вочы. Як толькі яна прыходзіла на поле, ён сыходзіў знарок у другое месца. Каб не сустракацца з Галяй, ён кінуў хадзіць у клуб. А сёння нават ледзь не лёг спаць. Ды і чаго хадзіць. Усёроўна не ўдасца цяпер, у апошні вечар, зноў убачыць яе, аб усім ёй расказаць.

Пакутліва шчыміць сэрца. Вось чуў ён учора ад дзяўчат, што і Юрась атрымаў першую няўдачу ў каханні. Галя пачала ўцякаць ад яго. А цяпер зусім не паказваецца яму на вочы. І гэта пасля таго, як Мікола забег аднойчы на рэпетыцыю самадзейнасці. Патрэбны былі людзі на начную змену да малатарні. Мікола вырашыў узяць комсамольцаў з клуба. Аб гэтым ён сказаў Юрасю.

Але той узгарэўся:

— Бяжы будзі людзей, а сваіх не дам і чалавека. У мяне сёння рэпетыцыя і людзі заняты. Ад раскладу я не буду адхіляцца. Не дам, і баста.

Калі Мікола і комсамольцы пачалі даказваць, што прастой малатарні даражэй, чым сарваная рэпетыцыя, Юрась крыкнуў:

— Самі рыхтуйце самадзейнасць. А я больш не буду. Будзе кожны хадзіць ды зрываць...— і абы чаго нагаварыў на брыгадзіра.

Галя, якая сачыла за спрэчкай, злосна паглядзела на Юрася і выйшла з клуба.

І вось ужо чатыры дні, як Галі не бачыць Юрась. Не ходзіць яна нават і ў клуб. Дзе-ж бывае яна? Мікола ўявіў сабе, як, прылажыўшы да планак баяна вуха, хлопец паглядае на стрэлкі гадзінніка, сумна іграе, а вецер забаўляецца яго валасамі, вырываючы іх з-пад кепкі.

Рыбнай луской блішчыць роўнядзь ракі. Раскаты грому прыбліжаюцца, і ўжо раз-по-разу маланка паласуе неба. Пасвяжэла. Апошні раз праплыў па паверхні ракі месяц і схаваўся ад страху перад навальніцай за хмару. Мікола глянуў на гадзіннік — абедзьве стрэлкі сышліся на лічбе два, а ў тры гадзіны Галя едзе. Яе нідзе не чуваць.

І раптам у галаве Міколы мільгае думка — пайду да Гарпіны. Галя не інакш, як дома. Хай ведае, што я яе шчыра і моцна кахаю. Што-ж дрэннага, што яна будзе ведаць. Хай ведае і цётка... Хай усе ведаюць...

Мікола падхопліваецца і ідзе праз бярэзнік. Не дайшоўшы да хаты, ён раптам спыняецца: прытуліўшыся да бярозы, стаіць Галя. Момант — і Мікола каля яе. Бліснула маланка, і стала светла, хоць іголкі збірай. На вачах Галі блішчаць слёзы. Нібы наўзрыд, яна шэпча:

— А я думала, ты і сёння пройдзеш міма... Чаго ты ад мяне хаваешся. Я-ж з табой так хачу пагаварыць...— і яе галава падае на грудзі Міколу. Кудзеркі валасоў заказыталі над шыяй.

Па лісцях бярэзніку зашамацеў дождж, халодная кропля ўпала Міколу на шчаку і скацілася Галі на лоб. Ад хаты Гарпіны даносіўся амаль што сонны голас Юрася, які пеў сумную песню пра сінявокую дзяўчыну, якая не прыйшла на сустрэчу да каханага.

**АГЛЯД ДРУКУ**

## „ТВОРЧАСЦЬ ЖУРНАЛІСТА"

Навуковы гурток журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя В. І. Леніна выдае альманах «Творчасць журналіста». Амаль ва ўсіх жанрах спрабуюць свае сілы гурткоўцы. І калі выходзіць новы нумар альманаха, яшчэ задоўга да агульнага абмеркавання яго на гуртку, у пакоях пачынаюцца гарачыя, ажыўленыя спрэчкі.

І вось перад намі новы, дзевяты нумар. Ён адкрываецца вершамі А. Харкевіча, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага. Чытаеш іх, і хто-б ты ні быў, адчуеш жыццё студэнта: табе перададуцца хваляванне юнака ў час экзаменацыйнай сесіі, разам з ім успомніш ты аб роднай школе, раздзеліш першае, нясмелае пачуццё да любай дзяўчыны. І хай не ўсе радкі адшліфаваны як належыць — яны даходзяць да твайго сэрца, бо ідуць ад сэрца.

Сваёй непасрэднасцю не могуць не ўзрадаваць і вершы С. Блатуна і А. Акуліка. У С. Блатуна змешчаны някепскі верш «Пасля дажджу». Юнак ідзе вуліцай роднай вёскі, бачыць, як дзеці ганяюць абручы, і яму перадаецца радасны, бадзёры настрой хлапчукоў.

Возеру Свіцязь прысвячае свой верш А. Акулік. Яго-ж радзіма — Навагрудчына!

З цікавасцю чытаецца апавяданне студэнта чацвёртага курса Алега Фомчанкі «На стрэлках грукочуць цягнікі».

Весела, з усмешкай напісана і гумарэска Я. Каршукова «Перад стыпендыяй». Змястоўны і багаты крытычны аддзел нумара. З грунтоўным разборам вершаў універсітэцкіх аўтараў выступае малады паэт В. Зуёнак. У артыкуле А. Луніна «Важная падзея ў культурным жыцці рэспублікі» расказваецца аб выстаўцы рускага выяўленчага мастацтва ў Мінску. Г. Мохарт змясціў рэцэнзію «Каханне і мяшчанскі разлік» на паэму Р. Раждзественскага «Моя любовь».

Хочацца тут сказаць аб сур'ёзных недахопах альманаха. Справа ў тым, што ў апошні час альманах значна пагоршыўся. Не шанцуе нарысам, знік раздзел «Хроніка». Надрукаваныя нарысы «У калгасе імя 12 год Кастрычніка» А. Кузняцова і «Цяжкі вучань» Л. Абушэнкі вельмі слабыя. Гэтымі двума нарысамі і яшчэ ці то нарысам, ці то артыкулам А. Іўчэнкава «О матерях», які аўтарам абазначаны «накіды», вычэрпваецца ўся журналістыка ў альманаху. І тут узнікае патрэба сказаць, што журналістыка-ж — гэта не толькі нарыс, рэцэнзія, артыкул. Гэта і замалёўка, і памфлет, і фельетон, і рэпартаж. А дзе яны? Іх няма. Атрымліваецца парадаксальна — «Творчасць журналіста»... без журналістыкі.

Нашы газеты штогод папаўняюцца новымі кадрамі журналістаў з ліку выпускнікоў універсітэта. Аднак многія з іх не ўмеюць напісаць ні нарыса, ні фельетона. У чым-жа справа? У тым, думаецца, што памфлету, нарысу, фельетону не ўдзяляецца наогул дастаткова ўвагі і ва ўніверсітэце. Нават пры абмеркаванні альманаха на гуртку часта разглядаюцца толькі літаратурныя жанры.

У «Творчасці журналіста» — журналістыка павінна заняць ганаровае месца.

**Ан. КЛЫШКО.**



На занятках гуртка мастацкай вышыўкі Мінскага палаца піонераў.



**Віцебскі станкабудаўнічы завод імя Комінтэрна.**

На здымку: **комсамолец-зубарэзчык механічнага цэха А. Зубко** (злева) **і яго вучань з народна-дэмакратычнага В'етнама тав. Нгуэн Хонг Дзіэп за работай.**

Фото М. Мінковіча.

# Што думаюць пра вас хлопцы?

Друкуючы артыкул брыгадзіра прыгарадных цягнікоў І. С. Міціна і яго жонкі Д. К. Міцінай «Наша сям'я», рэдакцыя заканчвае дыскусію па пісьму аршанскіх камсамольцаў «Што думаюць пра вас хлопцы?», якая на працягу некалькіх месяцаў вялася на старонках часопіса «Маладосць».

Не на ўсе пытанні, якія былі ўзняты ў лістах моладзі, дае адказы змешчаны ніжэй артыкул і не з усім, пра што гавораць І. С. Міцін і Д. К. Міціна, рэдакцыя згодна цалкам і поўнасцю. Друкуемы матэрыял, як і наогул усе змешчаныя пісьмы аб каханні, дружбе, сям'і — дыскусійныя. Але, на думку рэдакцыі, такая слаўная, моцная сям'я, якой з'яўляецца сям'я Міціных, можа даць некаторыя карысныя парады нашым юнакам і дзяўчатам, што толькі ідуць у жыццё.

Рэдакцыя і ў далейшым мае намер друкаваць у парадку дыскусіі пісьмы нашай моладзі аб нормах савецкай маралі, этыкі, аб каханні, дружбе, таварыскасці. Мы звяртаемся да нашых чытачоў з просьбай прысылаць нам матэрыялы па вострых дыскусійных пытаннях.

## НАША СЯМ'Я

**Мы пазнаёміліся з дыскусіяй па пытаннях дружбы, кахання, сям'і, якая ідзе на старонках часопіса «Маладосць». У тых лістах юнакоў і дзяўчат, якія ўжо змешчаны і якія наогул ёсць у рэдакцыйнай пошце, уздымаюцца вельмі важныя пытанні. Правільна разумеюць гэтыя пытанні Лідзія Радкевіч і Наташа Кузняцова, якія пішуць: «Здаровая савецкая сям'я — аснова ўсяго. У такой сям'і выхоўваюцца сапраўдныя савецкія грамадзяне, здольныя будаваць комунізм».**

**Нашай сям'і, пра якую мы хочам расказаць, амаль столькі-ж год, колькі і Савецкай дзяржаве. Мы даўно адсвяткавалі сваё «сярэбранае» вяселле, збіраемся адсвяткаваць і «залатое». Мы вырасцілі чатырох дачок, аддалі іх замуж, маем ужо чатырох унукаў. Нам думаецца, што ўсім гэтым мы заслужылі права даць сякія-такія парады нашай моладзі, якая толькі ідзе ў жыццё.**

**У лістах юнакоў і дзяўчат вельмі многа справядлівага. Хіба-ж гэта добра, калі дзяўчына ідзе замуж, не ведаючы толкам, за каго яна ідзе, не ўзважыўшы сваіх пачуццяў. Тое самае можна сказаць і пра хлопца, які жэніцца, не ведаючы, што за чалавек яго падруга, чаго яна хоча ад жыцця.**

**Мы не хочам закранаць усіх астатніх пытанняў — як дружыць і колькі трэба дружыць, добра ці не добра дружыць хлопцу ці дзяўчыне адразу з двума і г. д. Чалавечыя ўзаемаадносіны і асабліва ўзаемаадносіны ў каханні, у дружбе — надзвычай складаная рэч і на ўсякі выпадак тут не дасі гатовых рэцэптаў. Важна, нам здаецца, каб моладзь разумела адно самае галоўнае: каханне — сур'ёзная справа і да яго трэба падыходзіць з усёй сур'ёзнасцю.**

**Гэтую нашую думку трэба разумець у тым сэнсе, што сапраўднае каханне не можа быць лёгкім фліртам, простай пагулянкай, калі і хлопец, і дзяўчына проста аддаюць, як кажуць, даніну сваёй маладосці. Такое «каханне» поўнай радасці жыцця не прынясе, яно толькі здрабнее, разменьвае пачуцці. Калі ісці па жыццю такім шляхам, то вынік будзе адзін — чалавек спустошыць сваю душу, сэрца, перастане верыць у шчырае каханне, у прыгажосць. Каханне — не разменная манета, яго нельга траціць па дробязях.**

**Людзі, якія любяць адзін другога па-сапраўднаму, не павінны забываць, што гэтае сваё каханне яны абавязаны прынесці ў сям'ю, на яго аснове будаваць моцную сям'ю. Вось і ўсё, што хацелі мы сказаць пра каханне. Яно ў кожнага чалавека бывае розным. Яно можа прыйсці раней ці пазней, але прыходзіць абавязкова. Каханне бывае і без узаемнасці і, нічога тут не папішаш, сэрцу, як кажуць, не загадаеш. Трэба, мабыць, навучыцца паважаць свае пачуцці і пачуцці другога чалавека.**

**У многіх пісьмах юнакоў і дзяўчат нас насцярожыла адно. Вельмі ўжо многа яны пішуць аб каханні, дружбе, забываючы, мабыць, што і дружба, і каханне сапраўднымі будуць тады, калі яны грунтуюцца на аднолькавых жыццёвых, грамадскіх ідэалах. Трагедыі якраз часцей за ўсё бываюць у тых сем'ях, дзе муж і жонка па-рознаму глядзяць на жыццё, па-рознаму разумеюць свае абавязкі перад жыццём, грамадствам, сям'ёй. Адсюль вынікае горкая ісціна. Наша моладзь часта лёгкадумна адносіцца да шлюбу, да сям'і. Маладыя людзі жэняцца або выходзяць замуж, не ведаючы добра адзін другога, сваіх характараў, прывычак, якасцей.**

**Тут можна даць толькі адну, але самую важную параду. Перш чым жаніцца або выйсці замуж, вывучы свайго друга жыцця, не саромейся выкласці перад ім свае жыццёвыя ідэалы, свае запатрабаванні. І калі ў маладых людзей акажуцца розныя погляды на жыццё, сям'ю будаваць, мабыць, не трэба. Нам здаецца, што нельга папракаць дзяўчыну або хлопца, калі ён дружыць не з адной, а з двума. Нічога дрэннага тут няма, калі яны не дазваляюць сабе лішняга. Дружы з кім хочаш і колькі хочаш, але жаніся або выходзь замуж толькі за таго, хто табе па душы, каго ты ведаеш, як самую сябе.**

**Пытанняў, якія падняты або закрануты ў лістах моладзі, вельмі многа. На ўсе не адказаш. Нам думаецца, што будзе лепей, калі мы раскажам пра сваю сям'ю, якой ужо 38 год. Магчыма, моладзь і знойдзе што-небудзь карыснае для сябе з нашага жыццёвага вопыту.**

**Пажаніліся мы ў грамадзянскую вайну, у 1918 годзе. Мы любілі адзін другога і абодва ведалі пра гэта. Я да жаніцьбы нямала паблукаў па жыцці. На свой хлеб пайшоў з дзевяці год. Пасвіў жывёлу, быў батраком. У 16 год трапіў на шахты, у Данбас. Вучыўся ўрыўкамі, любіў чытаць. Удзельнічаў у падпольнай рэвалюцыйнай рабоце, за што мяне звольнілі з шахтаў.**

**Паступіў на чыгунку і зноў прайшоў доўгую службу ад качагара да машыніста. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі дапамагаў маладой яшчэ Савецкай уладзе.**

**Мая жонка, Домна Кас'янаўна, — няхай хоць сама скажа, — таксама бачыла мала добрага ў жыцці. Выхоўвалася ў сям'і, якая налічвала 9 чалавек. Змалку зарабляла на жыццё вышываннем.**

**Калі мы пажаніліся, мы абодва ведалі, што нам трэба абараняць родную Савецкую ўладу, бо толькі адна яна адкрывала для нас дзверы ў сапраўднае чалавечае жыццё.**

**Пажылі мы разам мала. У 1919 годзе я зноў пайшоў на фронт. Насіўся на бронецягніку па многіх франтах. За тры гады толькі адзін раз здолеў пасласць жонцы свой франтавы паёк — пуд мукі. Але гэты пуд атрымала яна позна — наша першае дзіцё памёрла ад голаду. І пазней, у гады аднаўлення, нам было нялёгка. Спалі на шынялі і накрываліся шынялём.**

**Маё жыццё часцей за ўсё было на калёсах. Такая ўжо прафесія машыніста. Домна Кас'янаўна ніколі не папракала мяне гэтым. Жылі мы, як кажуць, у дружбе і згодзе. Былі, вядома, іншы раз і непаразуменні, але мы іх вырашалі мірам. Усё жыццё нельга толькі цалавацца, як галубкам. Вельмі важна каму-небудзь змаўчаць у патрэбны момант. Ва ўсякім выпадку, Домна Кас'янаўна можа пацвердзіць, што за ўсё наша сумеснае жыццё справа ні разу не дайшла да кулакоў. Ні разу мая жонка не хадзіла сцерагчы мяне ў дзень палучкі, а я ніколі не кантраляваў яе выдаткаў і пакупак.**

**У нас нарадзілася чатыры дзяўчынкі. Мы іх стараліся вучыць, стараліся, каб яны набылі сабе прафесію па душы. Не забывалі мы і пра другое — дзяўчыне калі-небудзь трэба ісці замуж, а таму яна павінна ўмець і любіць розную хатнюю работу. Усё-такі нават і ў наш час асноўны цяжар хатняй работы кладзецца на жанчыну.**

**Што датычыць нас з Домнай Кас'янаўнай, то якіх-небудзь сур'ёзных спрэчак на гэты конт у нас не было. Нічога крыўднага няма, калі і мужу прыдзецца часам начысціць крыху бульбы або затапіць печ.**

**Усё сваё жыццё мы вельмі добра ведаем адно: раз ёсць у цябе сям'я, то трэба жыць яе інтарэсамі. Дрэнна ў сям'і, непаладкі і на рабоце, значыць, і дзяржава церпіць убыткі. У сям'і трэба паважаць і любіць адзін аднаго, навучыцца не прыкмячаць дробязей.**

**Нашы дочкі ўсе павыходзілі замуж. Усе яны працуюць і маюць, здаецца, добрыя сем'і. Старэйшая, Аляксандра, працуе начальнікам аддзела кадраў на Мінскім камвольным камбінаце, Марыя — на Мінскім чыгунцы бухгалтарам, Лідзія — аж на Урале, а Валянціна — бракаўшчыцай на заводзе. Праца на прадпрыемствах не перашкаджае нашым дзецям выхоўваць сваіх дзяцей, нашых унукаў.**

**Свой расказ мы заканчваем такім пажаданнем нашай моладзі. У жыцці і, зразумела, у сям'і трэба мець мэту. Калі не будзеш мець сваёй жыццёвай задачы, то жыццё пройдзе пустацветам. Мэта-ж у нас адна — мы будуем светлае, комуністычнае грамадства, а значыць, наша сям'я павінна вырошчваць здаровае, радаснае, жыццездольнае пакаленне будаўнікоў.**

**Іван Сямёнавіч МІЦІН,**
**брыгадзір прыгарадных цягнікоў ст. Мінск-пасажырская.**

**Домна Кас'янаўна МІЦІНА,**
**хатняя гаспадыня.**

## *Аб чым нам пішуць...*

Ліст аршанскіх камсамольцаў «Што думаюць пра вас хлопцы?» выклікаў цэлы паток пісем. Як і трэба было чакаць, пераважная іх большасць належыць дзяўчатам. Але ёсць і лісты, аўтарамі якіх з'яўляюцца хлопцы.

Рэдакцыя не мае магчымасці надрукаваць усе пісьмы моладзі, якая прыняла ўдзел у дыскусіі, хоць трэба наперад сказаць, што ў многіх з іх уздымаюцца новыя цікавыя пытанні аб нормах нашай маралі і этыкі.

Аўтары вялікай колькасці водгукаў не згаджаюцца з аршанскімі камсамольцамі Леанідам Жыляніным, Аляксандрам Філіпавым і Валянцінам Манькоўскім. Прызнаючы, што сярод дзяўчат трапляюцца і лёгкадумныя, і неахайныя ў дамашнім побыце, і «мамкіны» дочкі, якія не хочуць і не ўмеюць нічога рабіць, аўтары гэтых пісем сцвярджаюць, што названыя недахопы яшчэ ў большай ступені ўласцівы хлопцам. Такія думкі выказаны ў лістах Марыі Нікалайчык, Соф'і Сазанковай, Эміліі Аксёнавай (ст. Салтанаўка, Жлобінскі раён), Тані Карнеенка (Гуслішчанская хата-чытальня, Магілёўскі раён), Раісы Чыгрын (Пінская сельскагаспадарчая школа), Ніны Беладзед (Рымашоўская НСШ, Капыльскі раён), Антаніны Свістуновай (в. Янкавін, Лёзненскі раён), М. Банетавай (г. Магілёў), Галіны Пашук (калгас імя Андрэева, Свірскі раён), Эміліі Клюевай, Station Браніславы Піталенка, Валянціны Бондаравай (калгас «Праўда», Багушэўскі раён), Ф. Касцюк (Клецкі раён), Е. Дзмітровіч (в. Бубны, Скідзельскі раён), Зінаіды Жудро (г. Віцебск), Галіны Байрашэўскай (Бярэзінскі раён), Святланы Лебедзевай (Гуслішчанская МТС), Л. Чашун (г. Пінск) і многіх іншых.

З насмешкай расказваецца ў некаторых пісьмах аб так званых «стылягах» і наогул разбэшчаных хлопцах, якіх можна сустрэць даволі часта. Гэтыя «казлы ў штанах», як піша адна студэнтка, сэнс жыцця бачаць у пошуках няспынных вострых адчуванняў і новых уражанняў. Для іх нічога не азначае ашукаць даверлівую дзяўчыну, напляваць ёй у душу, апаганіць самыя чыстыя пачуцці.

Некаторыя аўтары паведамляюць пра хлопцаў-абібокаў, якія, закончыўшы школы, нідзе не працуюць і, седзячы на ўтрыманні бацькоў, увесь свой час аддаюць пагулянкам. Не перавяліся хлопцы, паведамляецца ў частцы пісем, якія свядома жэняцца па разліку, шукаючы сабе нявесты з вышэйшай адукацыяй або з вялікім заробкам.

Аўтары Андрэй Каласун (калгас «Зара», Кобрынскі раён), Іван Сопат (г. п. Васілевічы), Уладзіслаў Левановіч (Горацкая сельскагаспадарчая акадэмія) і іншыя паведамляюць аб няправільных поглядах некаторых дзяўчат і хлопцаў на жыццё і каханне, аб недастатковым уздзеянні школы, сям'і, камсамольскіх арганізацый на выпрацоўку сапраўды савецкай маралі і этыкі. У радзе пісем выказваецца пажаданне, каб пытанні этыкі, маралі часцей уздымаліся на старонках газет і часопісаў, каб гэтымі надзвычай важнымі для нашай моладзі пытаннямі больш цікавіліся школа і камсамольскія арганізацыі.



# ЗАГЛЯНІЦЕ Ў ІНТЭРНАТ

Ал. ВЕЧАРКОЎ, А. ДЗІТЛАЎ

На вуліцы Металістаў у Чыгуначным раёне Віцебска ў двух вялікіх будынках, якія стаяць побач,— інтэрнат будаўнікоў трэста № 139. У мужчынскім і жаночым аддзяленнях інтэрната жывуць каля трохсот чалавек — муляры, тынкоўшчыкі, шафёры, кранаўшчыкі...

Завіталі мы сюды а сёмай гадзіне ўвечары, калі скончыўся працоўны дзень.

Камендант Дзмітры Зароўскі з неахвотай згадзіўся паказаць нам інтэрнат.

— Сёння была палучка,— панылa прамовіў ён, махнуўшы рукой.— Дык у нас, гэтае... парадак такі... п'яных многа...

Але, яркім доказам таму, што была палучка, быў сам камендант — ад яго несла гарэлкай. У памятай шапцы і расхрыстанай ватоўцы ён нагадваў пасажыра з прыгараднага цягніка.

Як толькі мы зайшлі ў адзін з пакояў, адразу на Зароўскага накінуліся хлопцы, пачалі выгаварваць, што набалела, патрабаваць тое, што месяцамі ён абяцае, але не робіць.

— Дзе нам вячэру гатаваць? — пытае адзін.— Кухня адна і ў той пліта сапсавалася, а ў пакоях разеткі паабразалі!..

— Чаму са столі цячэ? — насядае другі.

— Калі кран адрамантуюць? — абураецца трэці.— Памыцца няма як!..

Інтэрнатаўцы скардзяцца на тое, што ім няма дзе пакласці спецвопратку. На тры—чатыры чалавекі адна шафа, але там ледзь хапае месца для чыстага, выхаднога адзення. Некаторыя хаваюць спяцоўкі за шафай, а жыхары пакоя № 31 проста брудную пыльную вопратку паскладалі зверху на шафу.

Цікава, што і зараз на ўсе заўвагі Зароўскі рэагуе вельмі своеасабліва — альбо адмаўляецца зусім гэтым займацца, альбо накідваецца на хлопцаў: «Самі вінаваты, вы-ж будаўнікі, трэба было рабіць трывала, каб пліта не ламалася, каб атынкоўка не сыпалася, каб са столі не капала»...

— Пойдзем,— рашуча гаворыць камендант, махнуўшы рукой.— Тут у мяне жывуць няўдаліцы-хлопцы, пакажу вам лепшыя пакоі.

Даведаўшыся, што мы цікавімся ўсім — і добрым і адмоўным у жыцці інтэрната — інтэрнатаўцы пасмялелі, грамадой рушылі, паказваючы нам кожны пакой. Ідучы, расказвалі, што і выхавацеля няма ў іх, і совет не працуе, і ніякай выхаваўчай і культурнай работы ў інтэрнаце няма.

— Я ўжо не ведаю, калі ў кіно быў,— гаворыць шафёр Алесь Афанасенка.— Кінотэатр далёка, а ў трэстаўскім клубе ніяк перасоўку не збяруцца прыдбаць!

— Што ты пра кіно гаворыш!— уступае ў размову комсамолец Віктар Недасекаў.— Мы ўжо каторы месяц комсорга не бачым, хоць-бы ўзносы заплаціць.

— Дык што, я і ў гэтым вінен? — ухмыльнуўся Зароўскі.

— Не ўсміхайся, камендант! — рашуча кідае чарнавокі хлопец у новай шапцы-вайскоўцы.— Пра ўзносы мы самі разбярэмся. А дакуль гэта мы будзем без сушылкі? Калі пачне дзейнічаць санвузел?

Зароўскі спахмурнеў, насунуў глыбей на вочы шапку.

Пайшлі ў чырвоны куток, які знаходзіцца ў суседнім доме, дзе жывуць дзяўчаты, але ўбачылі толькі зачыненыя на замок дзверы: ён бывае зачынены даволі часта. Сталага чалавека, які адказваў-бы за яго работу, няма. Ключы аддалі кладаўшчыцы Ядвізе Сахоўскай, але яна адчыняе пакой на якую-небудзь гадзіну, выдасць чытачам кнігі (яна замяняе бібліятэкара) і зноў замыкае. Тут ёсць більярд, шашкі, шахматы, але карыстацца імі рабочыя не маюць магчымасці. Газет і часопісаў інтэрнат не мае.

Чым-жа займаецца моладзь вечарамі?

— Весялімся, як хто ўмее,— у адзін голас гаворань хлопцы і дзяўчаты.— Сумна ў нас...

Але маладосць ёсць маладосць.

Нягледзячы на строгую забарону, хлопцы і дзяўчаты збіраюцца ў калідоры, наладжваюць пагулянкі і танцы. Хлопцы ў верхняй вопратцы, з цыгаркамі ў зубах. Гарманіст Алесь Бароўка, стоячы, пілiць на гармоніку. Там недзе збоку, падпёршы плечуком сцяну, стаіць і Зароўскі, гушкаецца на няцвёрдых нагах, смокча цыгарку-суслу...

У дзяўчат тыя-ж прэтэнзіі: калектыўная кухня на сто жыхароў; у акне выбіта шыба тры месяцы назад, але новую ўсё не збярэцца ўставіць камендант; радыё не гаворыць, калідор не асвятляецца; няма ніякіх гурткоў для маладых рабочых-інтэрнатаўцаў...

Жыхары гэтага вялікага дома, гаворачы пра запушчанасць у рабоце з маладымі рабочымі, сыходзяцца на адной думцы: няма ў іх добрага арганізатара моладзі.

У райкоме комсамола, які, між іншым, знаходзіцца побач з інтэрнатам будаўнікоў, не здзівіліся, калі мы расказалі пра скаргі яго насельнікаў — маладых будаўнікоў.

— Там у нас выхавацелем быў Грунтоў,— сказаў сакратар райкома Павел Логвін. —Ён-жа працаваў і сакратаром комсамольскай арганізацыі. Праўда, ён запусціў справы...

Нібы для таго, каб паказаць, што райком нешта ўсё-ж зрабіў для моладзі інтэрната, сакратар, памаўчаўшы, дадаў:

— Мы яму, Грунтову, вымову аб'явілі!

А інструктар райкома, што прысутнічаў пры гэтай нашай размове, са свайго боку дапоўніў:

— Мы гэтае пытанне на бюро райкома абмяркоўвалі.

— Заслухоўвалі каменданта і выхавацеля гэтага інтэрната? — спыталі мы.

Сакратар адказаў:

— Слухалі пытанне аб стане культурна-выхаваўчай і фізкультурна-спартыўнай работы сярод маладых будаўнікоў трэста. У сувязі з гэтым гаварылі і пра справы ў інтэрнаце.

— І што-ж вырашылі?

— Я-ж кажу, аб'явілі Грунтову вымову.

— ?!

У інтэрнаце прызначаны ўжо новы выхавацель, дэмабілізаваны марак комсамолец Мікола Павус. Райкомаўцы ўскладаюць на яго добрыя надзеі, называюць Міколу геройскім хлопцам,— ён мае сярэднюю адукацыю і нядрэнныя здольнасці маладзёжнага арганізатара. Нам не ўдалося пагутарыць з новым выхавацелем, бо ён тады яшчэ не быў на працы ў інтэрнаце. Але нам здаецца, што калі з боку комсамольскіх работнікаў райкома і гаркома яму будзе ўдзяляцца такая-ж увага, як і ранейшаму выхавацелю, то невядома, ці здолее ён на першым часе знайсці дарогу да сэрца моладзі, ці здолее зламаць тое няве'ре і абыякавасць насельнікаў



да свайго дома, якое пасеялі тут ранейшы выхавацель Грунтоў і цяперашні камендант Зароўскі?

Як мы ўжо гаварылі, з намі з пакоя ў пакой хадзілі хлопцы, шчыра паказвалі нам на ўсе непаладкі, заўзята спрачаліся з камендантам, прад'яўлялі свае прэтэнзіі, абураліся. Адчувалася што ім вельмі балюча, што «бытавыя дробязі» ім сталі ўпоперак горла.

Гэта бясспрэчна. Камендант — чалавек, які страціў аблічча сумленнага работніка. Яго трэба звоаліць з работы. Але ці ўсё будзе залежаць толькі ад каменданта, няхай самага энергічнага і працаздольнага? Калі мы загаварылі пра гэта з хлопцамі, яны прыціхлі, сарамліва апусцілі вочы.

Многае можна зрабіць самім жыхарам у сваім доме. Хіба нельга наладзіць дзяжурства, навесці чысціню і парадак, трымаць узорна свой ложак, бялізну? Вядома, можна. А чаму-б хлопцам не ўзяцца за сушылку, не адрамантаваць тую-ж пліту на кухні, якая ўжо зусім абвалілася, чаму не паклеіць вокны ў сваім пакоі?

Тут ёсць і механікі, і слесары, і муляры. Трэба толькі быць добрымі гаспадарамі, а не часовымі насельнікамі ў інтэрнаце.

Адзін з жыхароў пакоя № 31, муляр Пятро Пятрыцкі, узлаваны, абураны, паказваў каменданту ручнік-абрывак і гнеўна гаварыў:

— Скажыце, калі ласка, на колькі будаўніку хопіць гэтага ручніка? Хіба можна такім ручніком карыстацца дзесяць дзён?

Камендант зноў маўчыць, толькі носам чмыхае. Відаць-такі вельмі ўжо вінен ён перад гэтымі хлопцамі.

А між іншым, тут, калі праўдзе прама глядзець у вочы, ёсць віна і некаторых саміх інтэрнатаўцаў. Былі-ж такія хлопцы, што ўмудраліся з аднаго ручніка зрабіць два, адзін збывалі, а другім карысталіся. Каб добра дзейнічала ў інтэрнаце комсамольскае вока, такіх спрэчак з-за ручнікоў ці сурвэтак сёння-б не было.

Не вывеліся яшчэ ў інтэрнаце гразнулі і нядбайнікі, людзі, якія не шануюць грамадскую маёмасць, не захоўваюць культуру быту.

Мы былі сведкамі таго, што ў пакоях параскідана адзенне, не прыбраны ложкі, на сталах горы аб'едкаў, усякага бруду. У адным з пакояў хлопец пад сталом прымайстраваў плітку і смажыў бульбу, у другім — такі-ж малады чалавек, седзячы на ложку, рамантаваў веласіпед, у трэцім — была адкрыта паходная майстэрня па рамонту абутку... Зноў-жа тут аднаму каменданту ўсё дагледзець немагчыма. Трэба ўсім, агульнымі намаганнямі, дружнай сям'ёй падтрымліваць парадак, чысціню.

Вядома, некаторым хлопцам не спадабаюцца нашы гэтыя заўвагі, бо яны лічаць, што ва ўсім вінаваты толькі камендант і кіраўнікі трэста. Слоў няма, кіраўнікі трэста вінаваты і павінны неадкладна змяніць свае адносіны да свайго інтэрната, дзе жывуць каля 300 будаўнікоў. Але нельга забываць і пра тое, што чысціня, парадак у пакоях залежыць у першую чаргу ад саміх людзей, якія там жывуць. У якасці кантрасту мы зняшчаем здымак пакоя, дзе жывуць дзяўчаты — качагар Марыя Гашчанка і тынкоўшчыца Алеся Цурбанава. Не горш і ў пакоі, дзе жывуць Ліда Бізунова і чатыры яе суседкі. У іх чыста, на стале, засланым бялюткім абрусам,—вазон кветак, на сценах — карціны, фотакарткі ў зашклёных рамках. Дзяўчаты самі ўбіраюць у пакоі, мыюць падлогу, зрабілі асобны куток для рабочай вопраткі.

Калі паглядзець на будынкі інтэрната знадворку, то сэрца радуецца — добрыя, прыгожыя дамы, адзін на тры павярхі, а другі на два; светлыя, вялікія вокны, балконы, старанна аддзеланы сцены, а ўнутры шмат недаробак: вельмі цесныя кухні, мала ўмывальнікаў, няма бытовак, пакояў адпачынку; дрэнна зроблены санвузлы, не наладжана асвятленне калідораў.

Гэта суровы папрок будаўнікам: людзям, якія праектуюць інтэрнаты.

Яшчэ некалькі слоў пра каменданта. Калі ў райкоме комсамола мы перадалі абурэнне інтэрнатаўцаў паводзінамі Зароўскага, сакратар райкома Павел Логвін бездапаможна развёў рукамі:

— Мы не можам нічога зрабіць. Зароўскага падтрымліваюць у трэсце, ён, здаецца, комуніст...

Што-ж, калі самі работнікі райкома комсамола не могуць справіцца з камендантам-нядбайнікам, дык у Віцебску ёсць і гарком, і абком ЛКСМБ. Нарэшце, комсамольскія работнікі ведаюць дарогу ў райком і гарком партыі.

Усё-ж, таварышы райкомаўцы, таварышы з гаркома комсамола, загляніце ў інтэрнат па вуліцы Металістаў, дапамажыце будаўнікам навесці парадак у іхнім доме.



## ПАЛЫМЯНЫ РУБЕН



З партрэта глядзіць жывы, энергічны твар юнака. Гэта Рубен Ібаруры, сын Даларэс Ібаруры.

Нарадзіўся Рубен у вёсцы Сомаростро, што прытулілася ў гарах Біскайі. Трынаццацігадовым хлапчуком прыехаў ён разам са сваёй маці ў рэвалюцыйны, бурны Мадрыд. Чорнавалосага вяртлявага падлетка часта можна было бачыць на вуліцах горада. Рабочыя ведалі — ён прадае комуністычную газету. Ён прадаваў яе пад самым носам у паліцыі, гэты бясстрашны юнак.

Ішлі гады. Над Іспаніяй навісла цёмная ноч паліцэйскага тэрору. Усё цяжэй прыходзілася комуністам весці барацьбу. Але нягледзячы на небяспеку, якая пагражала кожную хвіліну, Даларэс Ібаруры ездзіла па краіне, падымала народ на барацьбу. Маці-рэвалюцыянерка цяпер амаль не мела часу, каб выхоўваць сваіх дзяцей. Таварышы Даларэс па компартыі вырашылі адправіць Рубена і яго сястру Амаі Ібаруры ў Совецкі Саюз. Яны прыехалі да нас у 1935 годзе.

Рубен знайшоў у нашай краіне многа сяброў. Хутка ён паступіў вучнем на Маскоўскі аўтамабільны завод.

Іспанію ахапіў пажар вайны. Рубен зразумеў — яго месца на барыкадах, у радах тых, хто змагаецца за свабодную Іспанію. Але для гэтага патрэбны былі ваенныя веды. Рубен едзе ў Сталінград і паступае ў ваеннае вучылішча.

Іспанія сцякала крывёю. Юнак Рубен не мог чытаць спакойна франтавыя зводкі. Не закончыўшы вучылішча, ён паехаў у Іспанію і паступіў ў народную армію.

Многа прышлося перанесці юнаку. Акопы, цяжкія дарогі адступлення, канцэнтрацыйны лагер на поўдні Францыі. З канцэнтрацыйнага лагера Рубену ўдалося ўцячы.

У 1939 годзе Рубен уступіў у Чырвоную Армію. Калі на нашу краіну напалі фашысцкія захопнікі юнак пайшоў на фронт. Захаваліся франтавыя лісты Рубена да сваёй маці Даларэс Ібаруры. Вось што пісаў ён у лісце, датаваным 8 ліпеня 1941 года:

«Яшчэ раз пішу табе, мама, што лічу за гонар змагацца ў непераможных радах Вялікай Чырвонай Арміі супроць жандара чалавецтва. Я перакананы, што тут ён зломіць сабе хрыбет, бо — я пісаў ужо табе — тут у кожнай жанчыне, у кожным мужчыне жыве бальшэвік.

Гэты народ цудоўны... Такі народ нельга перамагчы...»

Каля Барысава лейтэнанта Рубена Ібаруры цяжка параніла. Цішком уцёкшы са шпіталю са скалечанай рукой, ён сеў у воінскі эшалон, які ішоў на фронт.

На подступах да Сталінграда Рубен Ібаруры камандаваў кулямётнай ротай. Ён хадзіў у атаку, яго рота на працягу многіх дзён бязлітасна касіла фашыстаў. «Сталінград не здаецца, — гаварыў сваім баявым сябрам Рубен. — Но пасаран...»

У час штурму варожых пазіцый Рубен загінуў. Гвардыі капітану Рубену Ібаруры было пасмяротна прысвоена званне Героя Совецкага Саюза.

Сын Іспаніі, палымяны Рубен, як звалі яго таварышы, змагаўся на совецкай зямлі з такой-жа адвагай, як і совецкія дабраахвотнікі інтэрнацыянальных брыгад у Іспаніі. Для сумленных людзей усяго свету аднолькава дарага свабода, на якой-бы часцінцы планеты не ішла за яе барацьба.

**В. СОКАЛАЎ.**

# З ФОТААПАРАТАМ ПА ГАЛАНДЫІ



Два тыдні наша маленькая турысцкая група, якая складалася ў асноўным з вядучых шахматыстаў Савецкага Саюза (чэмпіён СССР Тайманаў, гросмайстар Флор, гросмайстар Ліліенталь і шэраг майстроў і кандыдатаў у майстры), рабіла вялікае падарожжа па гарадах Галандыі. Маршрут, выпрацаваны фірмай Лісон-Ліндэман, што абслугоўвае турыстаў, прадугледжваў наведванне помнікаў старажытнасці і іншых цікавых месц у розных гарадах і іх ваколіцах.

Вось віды Амстэрдама: каналы, што ідуць праз увесь горад, невысокія дамы, шмат шкла і паветра і як кантраст — лодка, зробленая з розных кавалкаў будаўнічага матэрыялу, з маленькім акенцам-фортачкай. У гэтай лодцы жыве рабочая сям'я. Такіх лодак шмат, яны стаяць адна каля адной па краі канала.

— У нас яшчэ не ліквідаваны жыллёвы крызіс, — гаворыць наш гід пан Разе. — Уладальнікі лодак чакаюць кватэр. І, відаць, яны чакаюць не проста кватэр, а танных, даступных рабочаму.



У эканоміцы Галандыі турызм адыгрывае вялікую ролю — гэта адна з крыніц прыбытку. З мэтай прыцягнення турыстаў тут старанна захоўваюцца нацыянальныя асаблівасці ўкладу. Не ўсюды, вядома, але ў месцах, якія паказваюцца турыстам, — абавязкова. Гандаль сувенірамі — «млынамі» ўсіх памераў, кліпсамі (нацыянальны драўляны абутак), лялькамі ў нацыянальным адзенні — пастаўлены ўзорна. Але толькі гэтым не прыцягнеш заходніх турыстаў. Прыцягваюць іх больш нізкія, чым у Англіі, Францыі, Бельгіі і іншых краінах, цэны на тавары шырокага ўжытку. Галандцы рэкламуюць сябе як «востраў дзешавізны», атрымліваючы карысць па вядомай рускай прыказцы: «За морам цялушка ў поўграша, ды рубель перавоз», г. зн. праігрываючы ў цане тавараў, яны выйграваюць на паслугах.

Маршрутнае наведванне вострава Маркен, дзе паводле турысцкай праграмы нас павінна было «ўразіць яркае адзенне жыхароў», пакідае думку, што іншых спраў, апрача як «уражаць» турыстаў яркім адзеннем, у жыхароў вострава Маркен няма. Увесь дзень на іх глядзяць турысты, шчоўкаюць затворы фотаапаратаў, ідзе дэманстрацыя вясельных і нядзельных касцюмаў. Фатаграфуючы, трэба абавязкова штонебудзь купіць у «аб'екта здымкі», інакш маркенцы не будуць фатаграфавацца. Затое свабодна можна было сфатаграфаваць не толькі парадны выгляд дамоў спераду, але і захламленыя жылыя прыбудовы ззаду, куды звычайна «па маршруту» турысты не ходзяць.

Падарожжа было вельмі цікавым. Наша група агледзела амаль усе гарады Галандыі, дзе не толькі знаёмілася са славутымі асаблівасцямі, але і з побытам галандцаў. Мы сыгралі некалькі шахматных матчаў (у Больсвары, Арнхеме), былі на аукцыёне кветак у Альсмееры, бачылі карціны Рэмбрандта ў Рыйкс-музеі, Вінсенце Ван Гога ў музеі «Келер-Мюлер».

Маленькая Галандыя вядзе пастаянную барацьбу з велізарным Поўночным морам — дамбы і плаціны захоўваюць яе ад затаплення, адцясняюць мора, даюць магчымасць атрымаць невялікі працэнт новай зямлі, адваяванай у яго. Галандцы — мужны і працавіты народ, просты, няхай некалькі суровы, але ён паважае ўсіх тых, хто цікавіцца яго краінай, бытам і работай.

К. ЗВАРЫКІНА,
міжнародны майстар спорту.









На здымках: (зверху ўніз і направа):

Ля доміка Пятра I у Заандэме, пакрытага каменным футлярам. У гэтым доме ў 1697 годзе цар Пётр I пасяліўся і пачаў вывучаць карабельную справу. У 1911 годзе ў цэнтры горада Заандэм паставілі помнік Пятру I.

Амстэрдам. Галандская сям'я на прагулцы.

«Жывыя шахматы». Уладальнік рэстарана «Пяці мух» (першы злева) з мэтай рэкламы свайго рэстарана падстрыг свае дрэвы так, што яны набылі форму шахматных фігур.

Востраў Маркен. Знадворку дамы вельмі прыгожыя. Але вось другі бок тых-жа дамоў.

Дэльфт. Від на канал. У Дэльфце так многа каналаў, што ён атрымаў назву «Блакітны Дэльфт».

Замак у ваколіцах Амстэрдама. Адкрыты музей.

Ротэрдам. Скульптар Заткінд, «Жахі вайны». Скульптар Заткінд падараваў сваю работу Ротэрдаму, разбуранаму пасля бамбардыроўкі немцамі ў 1944 годзе. Скульптура, паводле задумы аўтара, адлюстроўвае Ротэрдам, пазбаўлены сэрца.

Гандаль сувенірамі. Тут робяць і прадаюць драўляныя чаравікі, зробленыя на адну нагу, якія завуцца «кліпсамі». Міжнародны майстар Паноў В. П. задаволены прымеркай.



# ЧАЛАВЕК ПАЗНАЕ НЕБА

Б. ЛЯПУНОЎ

У Маскве ёсць незвычайнай формы будынак. Ён стаіць на адной з галоўных вуліц, крыху воддаль ад яе. Яшчэ здалёк кідаецца ў вочы яго высокі, увесь у металічным бляску купал.

Асфальтаваная дарожка вядзе да дзвярэй. Падымемся па лесвіцы — і мы ў круглай зале, застаўленай радамі лавак. Пасярэдзіне дзіўны на выгляд апарат, а непадалёк адгароджаная трыбуна. На лаўках паступова рассаджваюцца людзі. Больш за ўсё тут дзяцей — і маленькія, якія прыйшлі разам з дарослымі, і старэйшыя. Вось зала запоўнена. Закрываюцца шырокія дзверы, гасне святло.

Спачатку непраглядная цемень, і раптам — над нашымі галовамі ўзнікае начное зорнае неба. Толькі што мы крочылі сонечнымі вуліцамі, глядзелі на чысты блакіт неба, а тут ноч! Прыглядзеўшыся, распазнаем знаёмыя зоркі і абрысы сузор'яў — чарпак Мядзведзіцы, Палярную зорку, Ліру... Штучны сусвет!

Мы ў планетарыі, дзе можна вечарам убачыць усход сонца, днём — зоркі, дзе магчыма ў любы час апынуцца сярод месячных гор. На трыбуне — лектар. Светавой стрэлкай-указкай ён водзіць па зорках, расказвае аб тым, як людзі ўяўлялі неба раней і якое яно на самай справе, як збудаваць зорны дом, што называюць Сусветам. Паварочваецца апарат-праектар, і паслухмяна змяняецца звёздны ўзор. Перад нашым позіркам наглядна, асязальна раскрываюцца таямніцы неба, нібыта чалавек на самай справе кіруе ўсёй механікай светабудовы.

Словы лектара пераносяць нас у далёкае мінулае...

Прайшло шмат часу, былі затрачаны намаганні многіх людскіх пакаленняў, перш чым развеяўся біблейскі міф і наша ўяўленне аб небе стала дакладным і ясным. Гэта быў сапраўдны подзвіг чалавецтва. Нямала смельчакоў расплацілася жыццём за тое, што ўслых гаварыла праўду пра неба. На кастрах гарэлі людзі і кнігі. Над розумамі панавала царква, жорстка караючы за кожнае смелае слова, калі яно супярэчыла яе вучэнню. Верыць, верыць усляпую самай сапраўднай бязглуздзіцы, не разважаць, не спрачацца, не задаваць пытанняў — вось чаго патрабавала царква. Біблія — свяшчэнная кніга, божае адкравенне, і кожнае слова ў ёй бездакорна.

Мільярды год назад, у эпоху нараджэння светаў, разам з іншымі планетамі, узнікла і наша Зямля. Не па волі ўсемагутнага, а згодна законаў прыроды нарадзілася яна. Сучасная навука адказвае, як гэта адбылося — яна ўшчыльную падышла да рашэння загадкі аб паходжанні планетнай сям'і.

Ішоў час, і паступова на Зямлі стварыліся ўмовы, спрыяльныя для ўзнікнення жыцця. Вада, паветра, сонечнае святло і цеплыня непазбежна вядуць да ўтварэння жыцця. Велізарны шлях ад першай жывой клеткі і да разумнай істоты мы цяпер мысленна праходзім за некалькі хвілін. Яшчэ першабытны чалавек пачаў перарабляць прыроду. Паступова ён атрымлівае над ёй усё большую ўладу. Век змяняецца векам, ступенька за ступенькай падымаецца непакорны чалавек у пазнанні свету. Але яшчэ страшэнна далёкія ад сапраўднасці яго ўяўленні аб акаляючым. Усё выклікае страх, усё запоўнена таямніцамі. Удар грому, бліскавіца, змена дня і ночы, нават удача або няўдача на паляванні — незразумелыя, таямнічыя з'явы. Не знаходзячы прычын гэтых з'яў, чалавек прыпісвае іх волі багоў. Багі, напэўна, жывуць недзе ў гарах. Потым іх домам уяўляецца неба. Адтуль яны кіруюць грознымі сіламі прыроды: дождж, снег, маланка, гром — усё гэта з неба. Ну, а што-ж уяўляе сабой зямля? Якой яе бачыць першабытны чалавек?

Яна цягнецца ва ўсе бакі, куды ні кінь позірк. Але там, дзе з ёю сыходзіцца неба, яе край. Неба — круглая чаша, якая накрывае плоскую зямлю. Зямля — цэнтр Сусвету, а Сонца, Месяц, зоркі створаны, каб асвятляць гэты адзіны прытулак жыцця.

Восемнаццаць стагоддзяў назад старажытнагрэчаскі вучоны Пталамей, абапіраючыся на матэматычныя вылічэнні, стварыў сістэму Сусвету на чале з Зямлёй. Вакол Зямлі круціцца Сонца і зоркі, — вучыў ён. Гэтае вучэнне прыйшлося да густу царкве. Царкоўнікі асвяцілі яго непахісным аўтарытэтам, і многія стагоддзі яго тэорыя бязмежна панавала ў астраноміі.

Астраномы даўно заўважылі, што пталамеева сістэма не можа вытлумачыць усяго, што робіцца на небе. І вось у XVI стагоддзі адбылася вялікая падзея. Польскі астраном Нікалай Капернік сцвярджаў зусім новае: згодна яго тэорыі, планеты сонечнай сістэмы, у іх ліку Зямля, рухаюцца вакол Сонца і ў той-жа час круцяцца вакол сваіх восей. Адсюль — змена дня і ночы, пораў года, адсюль уяўны рух зорак па небазводу і зусім раней незразумелыя, заблытаныя петлі, якія выпісваюць па ім планеты.

Мы глядзім на рухомыя планеты з рухомай Зямлі і таму нам здаецца, што нашы суседкі па Сусвету нейк дзіўна танцуюць, то імкнучыся наперад, то зноў вяртаючыся назад. Далёкія-ж зоркі для нас нерухомы, а на самай справе паварочваецца не нябесная сфера, а толькі Зямля. Складанае, заблытанае, таямнічае раней стала простым і зразумелым.

Новая сістэма Сусвету, нягледзячы на лютае процідзеянне царквы, паступова заваёўвала прызнанне. У яе была самая моцная зброя — зброя фактаў. Яна правільна адлюстравала рэчаіснасць, сапраўдны стан рэчаў — і таму аказалася неадольнай.

Ішлі гады і ашаламляльныя адкрыцці следавалі адно за другім. Ужо не простым вокам вывучаў чалавек неба. Калі ён упершыню навёў на неба тэлескоп, дзіўныя відовішчы адкрыліся перад ім. Далёкае стала блізкім, незаўважанае раней — ясным і выразным. Горы на Месяцы; кольцы Сатурна ў выглядзе дыска; Венера, якая змяняе фарбы; падобна да зямнога спадарожніка, малюсенькія спадарожнікі ў гіганта Юпітэра; плямы на Сонцы і мільярды мільярдаў зорак, што зліваліся ў суцэльныя палосы і не маглі быць бачны дагэтуль — вось якія таямніцы неба дапамог раскрыць тэлескоп.

Якіх-небудзь тры стагоддзі таму назад людзі не маглі нават марыць аб тым, што мы добра ведаем сёння. Напэўна назвалі-б вар'ятам таго, хто сцвярджаў-бы, што магчыма вымераць адлегласць да зорак, вызначыць, з чаго яны складаюцца, ведаць іх тэмпературу, як хутка і куды яны рухаюцца.

Лектар расказвае нам пра Сусвет. Паўтараста мільёнаў зорак налічвае наша Галактыка — наш «родны» звёздны востраў, у які ўваходзіць і Сонца. Святлу трэба вандраваць амаль мільён год, каб сустрэць другі востраў, другую галактыку. Іх мноства, гэтых скапленняў галактык. Пра сотні мільёнаў сусветаў, падобных нашаму, ведаюць астраномы. Калі нават дайсці да самага далёкага з іх, да якога святло дабіраецца два мільярды год, дык і тады не закончыцца гэтае падарожжа. Наперадзе новыя галактыкі, і ім не будзе канца — свет бясконцы.

У бясконцых сусветных прасторах жыве адна з зорак — Сонца, адна з планет — Зямля. Няма сумнення ў тым, што недзе ёсць другія сонцы, другія землі. За такія думкі інквізіцыя трыста гадоў назад спаліла Джардана Бруно.

Знішчана ўяўленне пра ілжывы будынак свету, якое так падабалася некалі царкве. Чалавек адкрыў сапраўдны сусвет. Цемень забабонаў уступіла месца святлу ісціны. Гэта было непазбежна, як усход Сонца...

Уявім на хвіліну далёкую будучыню. Міжпланетныя караблі пракладуць трасы ва ўсе канцы сонечнай сістэмы. Падарожжа па гэтых касмічных шляхах зробіцца такім-жа звычайным, як у спальным вагоне дызель-экспрэса Масква — Ленінград.









# НА ПРАСТОРАХ АТЛАНТЫКІ

**П. БАГАЦЕНКАЎ**

**Рэпартаж**



Позна ўвечары параход «Барадзіно» адчаліў ад Клайпедскага парта і накіраваўся ў воды Поўночнай Атлантыкі, на здабычу селядца. Следам за ім ішла цэлая група промысловых караблёў у раён здабычы, што прасцёрся на поўнач ад Фарэрскіх астравоў да берагоў Ісландыі і запалярнага вострава Ян-Майен. Літоўская, Мурманская, Калінінградская, Латвійская і Эстонская флатыліі ловяць рыбу там, у нейтральных водах акіяна. Поўночная частка Атлантыкі зараз становіцца асноўным басейнам здабычы селядца рыбалавецкім флотам.

Каля тыдня цягнецца гэты рэйс. Каб трапіць у раён здабычы, трэба перасекчы Балтыку, мінуць пралівы Зунд, Катэгат і Скагерак, прайсці Поўночным, а затым Нарвежскім морамі.

Дзень і ноч ідуць караблі, за кармой пакідаючы доўгі пеністы след; марскі вецер палошча чырвонае палотнішча дзяржаўнага сцяга.

На параходзе, калі выпадае вольны час, збіраюцца людзі разам, і тады ўжо няма канца гаворцы, вясёлым жартам. Карабель нібы родны дом рыбакам.

На чацвёртыя суткі атрад караблёў увайшоў у Поўночнае мора. У прасторным клубе парахода «Барадзіно» адбылася кароткая вытворчая нарада. Начальнік плывучай базы Клімоўскі ў сваім кароткім дакладзе сказаў, што рыбакі атрымалі заданне: з траўлераў узняць на борт 24 тысячы цэнтнераў селядца, выпусціць 5 тысяч цэнтнераў гатовай прадукцыі, выдаць промысловым суднам 30 тысяч бочак, дзесяткі тысяч тон правіянту, солі, вугалю.

У сваіх выступленнях члены экіпажа аднадушна вырашылі ў два разы перавыканаць рэйсавае заданне па выпуску прадукцыі. Гэта значыць, у гандлёвую сетку дадаткова паступіць звыш 5 тысяч бочак першагатунковага атлантычнага селядца з новай фабрычнай маркай: «Плывучая база «Барадзіно».

На палубе сабралася амаль уся каманда. Людзі з захапленнем глядзелі ў далеч мора, дзе скрозь пеляну туману вырысоўваліся скалістыя астравы.

— Вось мы і прыбылі,— ціха сказаў бондар Уладзімір Іосіфавіч Семеж, калі параход кінуў якар ля падножжа шэрага ўцёса, што ўздыбіўся з вады.

Уладзімір Іосіфавіч, як і многія іншыя рыбакі, ужо не першы год рыбачыць, але заўсёды, калі прыбывае на акіян, прыгадвае родную вёску Надазер'е, што загубілася сярод пералескаў Віцебшчыны. Хлопец рыбачыць з маленства, бо нарадзіўся ў азёрным краі. І яго бацька — рыбак. У часе мінулай вайны Уладзімір быў у партызанах, потым стаў працаваць бондарам на маслазаводзе, але хутка засумаваў па любімай справе, паехаў у суседнюю Літву, на Балтыку.

Цяпер Уладзімір Семеж — лепшы бондар плывучай базы «Барадзіно».

Як толькі параход стаў на якар, да яго адразу пачалі падыходзіць траўлеры. Першым падышоў траўлер «Ямантаў». На борт узыйшоў капітан судна Монкус. Ён паведаміў, што ў трумах больш 500 цэнтнераў рыбы, вылаўленай за апошні час.

Пачалася выгрузка. Магутная лябёдка адразу ўзнімае дзесяць бочак селядцоў. Запрацавалі рыбапрацоўнікі. Разгрузіўшыся і атрымаўшы прыпасы, траўлер зноў пайшоў у мора...

У Поўночнай Атлантыцы добрае надвор'е — рэдкі госць. Але сёння выдаўся яркі сонечны дзень. Вакол карабля, колькі згледзець вокам, рассцілаецца пераліўчатае, агністае ззянне. Сонца шчодра сыпле на пеністыя марскія хвалі цяпло. З самай раніцы траўлер імчыць па марскому раздоллю. Але вось капітан узяў глыбокаводны тэрмометр і зрабіў замер тэмпературы вады. Замеры рабіліся праз кожныя 15 хвілін. Гэта пачаліся пошукі селядца.

Селядцовыя касякі часцей за ўсё сустракаюцца ў тых месцах, дзе сыходзяцца халодныя струмені з цёплай плынню. Тут улюбёныя шляхі руху рыбных касякоў.

Неабходны градыент знойдзены — тэмпература на кароткім адрэзку рэзка змянілася. Тады ўключылі эхалот-самапіс — навейшы высокаадчувальны прыбор, якім аснашчаны ўсе рыбалавецкія судны. Эхалот адзначае на папяровай стужцы заўважаныя скапленні рыбы. На стужцы ўсё часцей станавіліся цёмныя рысачкі. І калі яны зліваліся ў суцэльную чорную палоску, з капітанскага мосціка раздавалася каманда:

— Падрыхтавацца да ўзняцця сецяў!

Неўзабаве чуваць новая каманда:

— Выцягнуць сеці.

Амаль на чатыры кілометры па зыбістай паверхні акіяна працягнуўся ланцужок буяў — вялікіх, нагрэтых паветрам гумавых мячоў. Ста дваццаццю сецямі, кожная з якіх даўжынёй 30 метраў, перагароджаны шлях селядцовым касякам. Выключаецца машына, карабель кладзецца ў вольны дрэйф. Цяпер каманда траўлера можа адпачыць.

У Поўночнай Атлантыцы ў летнія месяцы не бывае начэй. Згушчаюцца на кароткі час вячэрнія змрокі, празрыста-сінія, нібы лёгкі дымок над гарачым вуголлем. І адразу-ж поўнеба з усходу ахоплівае ружовая зара. У шэсць гадзін раніцы ўвесь экіпаж на сваіх месцах. Старшы механік Анатоль Гоман запускае машыну. Зноў распачалася выбарка сецяў.

Буйныя, тлустыя, ідуць селядцы. У асобныя сеткі заходзіць да 500 кілаграмаў. Завіхаюцца рыбакі. Пад нагамі матросаў, занятых вытрускай сецяў, расце гара рыбы. Апрацоўшчыкі ледзь паспяваюць шкерыць і засольваць селядца.

Апошняя сець была выбрана толькі к вечару. Уся палуба, вопратка рыбакоў пакрыта серабрыстай луской. Радыст перадаў на плывучую базу зводку: за дзень здабыта 150 цэнтнераў селядца.

... Да борту плывучай базы, што стаіць ля Фарэрскіх астравоў, адзін за другім швартуюцца траўлеры. Круглыя суткі ідзе разгрузка. Лябёдчыкі і грузчыкі ў любое надвор'е, часта ў штормавыя вятры, заняты сваёй цяжкай працай, імкнучыся ў дакладныя тэрміны выканаць сваё заданне. Умяшчальныя трумы акіянскага карабля няспынна запаўняюцца багатым уловам.

Зваротным патокам на траўлерах перавозіцца гаручае, прыпасы, тара, соль, снасці...

Вось да плывучай базы прычаліў траўлер «621», дзе капітанам Іван Мазалеўскі. Экіпаж гэтага камсамольска-маладзёжнага траўлера заўсёды перавыконвае рэйсавыя заданні; на ім у згуртаваным калектыве працуюць рускія і літоўцы, беларусы і латышы. Сам капітан з Гомельшчыны. Сваю працоўную біяграфію пачаў з плавання на рачных суднах па Дняпры і Сожы. А цяпер з поспехам водзіць промысловыя караблі ў акіянскай прасторы.

За ім прышвартаваўся траўлер «Ховань». На борт узыйшоў яго капітан — дэпутат Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР Васіль Міхаська. Капітан запрасіў нас да сябе на судно. Некалькі гадзін мы правялі ў гасцінных рыбакоў. Каманда здавала свой двухтыднёвы ўлоў — сотні цэнтнераў першагатунковага селядца.

Калі трумы плывучай базы запоўняцца бочкамі селядца, пачынаецца зваротны пераход — да берагоў Радзімы. З Клайпеды, з парта, рыба ідзе і на далейшую апрацоўку, і да спажыўца. Можна кожны дзень бачыць, як ад прычалаў адыходзяць па чыгунцы транспарты — вагоны-леднікі з рыбапрадуктамі. Нярэдка на гэтых вагонах можна прачытаць: «У Маскву», «У Вільнюс», «У Мінск»...



Плывучая база «Барадзіно» гатова да прыняцця траўлераў.



Капітан траўлера Монкус робіць замер тэмпературы вады.

Фото аўтара.

# СОНЦА Ў ВОКНЫ

Павел КАВАЛЁЎ

Апавяданне



Мал. Г. Паплаўскага.

Імчыць машына па шашы да Мінска. Дарогу злёгку зацярушыла снегам. Там-сям відны асфальтаваныя лапіны. Шафёр Уладзімір, які падвозіць мяне, свайго былога настаўніка, да горада, маўчыць. Ці то ён саромеецца першым са мною загаварыць, ці чакае, пакуль я што-небудзь скажу.

А дарогі яшчэ кіламетраў семдзесят. Не ўседзіш без гаворкі.

Ведаючы маці Уладзіміра — старую Агрыпіну, якая жыве ў нашай вёсцы цяпер адна, і тое, што Уладзімір толькі што заязджаў да яе, я быццам незнарок пытаюся:

— Чаму-ж маці сваю не забіраеш да сябе?

Уладзімір, не паварочваючы галавы, глянуў на мяне ды сцішана адказаў:

— Не хачу пераязджаць.

А памаўчаўшы дадаў:

— Вось толькі Стасю пасылачку пасылае,— і ён паказаў на клунак, што ляжаў на заднім сядзенні.

Я не ведаў, хто такі Стась. Уладзіміра і брата яго старэйшага, Петруся, я вучыў. А вось пра Стася першы раз пачуў. Таму запытаўся:

— Стась — гэта сын Петруся?

— Не,— заківаў галавою Уладзімір і сціх.

Мяне брала цікавасць. Я адчуваў, што Уладзіміру ёсць пра што расказаць ды, відаць, штосьці яго стрымлівае.

— А чый-жа? — не цярпелася мне.

— Гэта вельмі доўгая гісторыя, Васіль Кандратавіч.

І Уладзімір пільна ўглядаўся наперад, сочачы, каб на дарозе не наскочыць на выбоіну. Пачынала віднець, і ён выключыў фары. Машына, здаецца, пайшла цішэй.

Я папрасіў яго расказаць гэтую гісторыю. І ён, крыху падумаўшы, пачаў:

— У вайну гэта было. У трэцюю зіму. Маці мне пра гэта расказвала. Неяк на машынах уляцелі ў нашу вёску гітлераўцы і накіраваліся да хаты Сцяпана Міхаленкі. Той быў у партызанах, а сям'я заставалася дома. Сэрцам кожны, хто глядзеў, прадчуваў у такіх выпадках толькі нядобрае... Вы-ж у арміі былі?

Я пацвердзіў гэта кіўком галавы, каб не замінаць Уладзіміру весці апавяданне.

Як толькі гітлераўцы схаваліся за дзвярыма, маці мая апранула кажушок і выйшла ў сенцы, каб глядзець за ўсім і пры неабходнасці схавацца. А ў хаце, куды ўварваліся ворагі, адбывалася страшэннае. Звяругі выцягнулі на сярэдзіну маці і жонку Сцяпана і расстралялі іх. Хату хуценька падпалілі, а самі, як ваўкі тыя, азіраючыся па баках, паўскоквалі ў машыну і што духу наўцёкі... Мая старая маўкліва глядзела на ўсё гэта і нічога зрабіць не магла. Калі з вокнаў сцяпанавай хаты шугануў дым, яна кінулася на двор, а потым і ў хату Сцяпана...

Не хапала сіл Уладзіміру гаварыць без перадыху аб усім страшэнным, а мне даводзілася толькі маўчаць. І калі ён, як вадзіцель, асцярожна паварочваўся на сваім сядзенні, дык я і не варухнуўся.

— Ля нежывых маці знайшла яго, Стася, жывога,— працягваў з хваляваннем у голасе Уладзімір.— Хлопчык паспеў схавацца за печ, і смерць яго абмінула. Загарнула маці Стася ў свой кажушок і панесла дахаты. Маленькі дрыжэў. Ад спалоху ён і слова не мог вымавіць. Глядзела тады маці на малога і думала: вось вернецца Сцяпан з партызанаў і хоць сына сустрэне. Неяк-жа крыху лягчэй на душы ў чалавека будзе. Але... загінуў Сцяпан. Так і застаўся Стась пры маці. Яна — старэнькая, ён — маленькі. Вось і жылі сабе памаленьку. Перад самым прыходам нашых, калі блізка ішлі баі, у лесе некалькі начэй хаваліся. Не адны, вядома, з людзьмі сваёй вёскі. Як прагналі акупантаў, хлопчык так і застаўся жыць у нас. Маю маці называў то бабкай, то маці. Ну, а якая-ж яна яму маці, калі нас двое яе сыноў у арміі былі, а дачка, сястра мая, жыла ў Горкім, дзяцей дарослых гадавала. Старэнькая разам са Стасем чакала, пакуль хто з нас вернецца з франтоў вялікай вайны.

Слухаў я Уладзіміра, слухаў няхітрую, але жыццёвую, чалавечую гісторыю. Гэтая гісторыя, як я цяпер здагадваўся, стала цяпер гісторыяй новай сям'і. І мне не хацелася, зусім не хацелася падганяць Уладзіміра, каб ён хутчэй расказваў ці шпарчэй гнаў машыну. Як зачараваны, я чакаў, што сам скажа далей Уладзімір, як будзе ён весці апавяданне. Праўда, прызнаюся, я спалохаўся, што ён больш не загаворыць. Ці мала якія прычыны могуць быць на гэта!

Маўкліва, але запытальнымі вачыма я зноў глядзеў на свайго суседа. Машына пагойдвалася і то набірала з узгорку хуткасць, то збаўляла яе, узбіраючыся на чарговы ўзгорак. З-за гарызонту ярка ўзбліснула сонца і ўдарыла ў шыбы машыны сваімі залацістымі промнямі. Я ўбачыў, як неяк палагоднеў твар Уладзіміра. Праз хвіліну ён прадаўжаў:

— Вярнуўшыся першым з вайны да сваёй маці, я сустрэў у нашай хаце Стася. Маці, неяк яшчэ дастаткова неўсвядомлена, сказала хлопчыку:

— Вось і тата прыехаў...

Так я зрабіўся бацькам. Нежанаты бацька. Маці, праўда, пасля тлумачыла, што не магла-ж яна малому гаварыць, што бацька яго, Сцяпан, загінуў. Наадварот, яна падтрымлівала ў ім добры настрой тым, што неаднаразова паўтарала: «бацька твой ваюе, ворагаў б'е». І Стась ганарыўся сваім бацькам, чакаў яго.

У той дзень ён доўга ад мяне не адыходзіў. Але і цяпер, калі я ажаніўся, без мяне хлопчык ні кроку. Есці — са мной. Спаць — таксама са мной. Гуляць пойдзеш, дык ён Наталлю, жонку маю, адпіхвае ад нас. Тая спачатку не рэўнавала, а цяпер часам крывіцца на мяне...

Уладзімір спыніў машыну і выйшаў. Ён узняў капот і нешта агледаў, а я сядзеў ды моўчкі думаў пра чалавека, якім ён можа быць прыгожым.

Пакапаўшыся крыху ля машыны, шафёр зноў сеў за руль. Націснуў стартэр, адпусціў счапленне, і машына пагойдваючыся на ўскраіне дарогі, пакацілася.

— А жывеш дзе, Валодзя? — спытаў я.

— Па вуліцы Талстога, за чыгуначным шляхам, ведаеце, што за перакідным мастом.

— Сумуеш па Стасю?

Уладзімір загаварыў больш ажыўлена:

— Ён да поўначы не адыходзіць ад акна, калі мяне няма дома,— і злёгку ўхмыльнуўся.— Хоць вазьмі і ў другім месцы працу шукай... Такую, каб без выездаў на раёны... Ён-жа чакае-чакае і, не паслухаўшы Наталлю, так і засне каля акна, падклаўшы ручкі пад галаву...

— Любіць, верным сынам будзе.

Уладзімір быццам і не звярнуў увагі на гэтыя мае словы. Яму ўсё гэта было даўнымдаўно зразумела. Ён палюбіў Стася, як сына, а Стась палюбіў яго, як бацьку. Любоў была ўзаемнай, а значыць — моцнай.

— Вось яна, Наталля Іванаўна мая...— Уладзімір першы раз так назваў сваю жонку:— Спачатку ўсё добра было. Я сказаў ёй шчыра, што Стась прыёмны мой сын і ён будзе заўсёды з намі. Я нават намякнуў ёй, што для нас абодвух, камсамольцаў, выхоўваць сірацінку — пачэсны абавязак. Яна пагадзілася і глядзела за малым, як за сваім родным. Вядома, яна спадзявалася, што хлопчык з цягам часу будзе называць яе мамай. Сапраўды, ёй хацелася быць для хлопчыка маткаю...

— Яно-ж так і павінна быць,— сказаў я, відаць, не да месца.

Уладзімір прыціх і, пільней углядаючыся ў дарогу, даваў газ. Ён хацеў паспець пабываць дома, паснедаць з сям'ёй і да дзевяці — быць у гаражы.

Так перапынілася апавяданне. Ва ўсім я вінаваціў толькі сябе. Але кіламетраў праз пяць—сем я аб нечым зноў запытаўся. Не вельмі-ж прыемна ехаць з чалавекам і маўчаць, як вады ў рот набраўшы.

Уладзімір адказаў і, здагадаўшыся, што не аб гэтым мне хочацца ведаць, працягваў далей сваю сямейную гісторыю. Цяпер я зразумеў, што яго нешта вельмі трывожыць.

— Як ажаніліся — усё напачатак ішло добра. Хоць і называў Стась жонку — цёцяй Наташай, яна не вельмі крыўдавала. Толькі ўсміхалася. Зусім іншае пачаў я заўважаць, калі нарадзіўся ў нас свой сын. Я, вядома, рады быў другому сыну, але-ж заставаўся бацькам і для Стася. Відаць, з сэрца ў сэрца перадалася мне матчына любоў да хлопчыка... Ведаеце, Васіль Кандратавіч, нельга сказаць, што яна кепска адносіцца да Стася. Не. Але ўсю сваю ласку яна пачала аддаваць свайму сыну Януку. І Стась, які моцна ўжо да мяне прывык і пачаў да яе прывыкаць, на ўсё гэта рэагаваў па-свойму. Тонкая душа ў дзіцяці. Танчэйшага інструменту ў свеце не знойдзеш... Дык ён, Стась, яшчэ бліжэй да мяне пачаў гарнуцца... З выключнай, я нават сказаў-бы, фанатычнай любоўю. Вось вазьму іх абодвух на калені да сябе: Стась нервуецца, Янука праганяе. Ну я, браткі, хлопчыкі мае, пачынаю іх мірыць. Не магу-ж пакрыўдзіць каторага. А яна, жонка, касавурыцца...

Машына час-ад-часу на выбоінах, замеценых першым снегам, падскоквала, але ішла пас-

Алесь АСТАПЕНКА

## Хто зайздросціць паэту?

Хто зайздросціць паэту? Дзівак-чалавек...
Грошай многа, павагі і славы?..
Што ён можа прадоўжыць свой век
Звонкім вершам ці песняй ласкавай...

Скарб паэта — ягоны любімы герой,
Што народжаны ім у пакутах,
Як ён стане жывы і жаданым у строй,—
Слава слову, што рыфмай падкута.

Я не знаю паэта такога ящчэ,
Які-б з вершаў нажыў мільёны,
Мусіць, горы любому варочаць лягчэй,
Чым узважыць славесныя тоны.

Цёпла жыць і спакойна таму, у каго,
Нібы дрэва, душа абрастае каpою.
Не кранае ні роспач, ні гора яго,
Гэткі толькі жыве сам сабою.

На душы у паэта, чуллівай заўжды,
Кожны імпульс жыцця адгукнецца.
Сэрца плача, смяецца, а трэба — тады
І крывёю гарачай зальецца.

Хіба можна зайздросціць паэту? Ён сам
Расплаўляе душу век у горне нязгасным,
Каб жар сэрца аддаць аж дарэшты людзям,
Ім адкрыць далягляд новы, ясны.

коранай хадою. Уладзімір трымаў амаль увесь час на хуткасці ў пяцьдзесят—шэсцьдзесят кілометраў.

— А ў мяне такі характар,— працягвае Уладзімір,— нічога дрэннага сказаць ёй не магу. А тлумачыць ёй, комсамолцы, усё, што ёсць у мяне да дзяцей вось тут,— і ён злёгку пастукаў у грудзі,— слоў не хапае... Сама павінна разумець, свядомая-ж...

— А хто-ж яна ў цябе? — пытаюся.

— Як і вы, настаўніца, толькі ў вячэрняй школе...

— Дарэмна, зусім дарэмна,— пачаў я,— нічога ёй не гаворыш. Аб тым добрым, што ідзе ад самага сэрца, ніколі не крыўдна сказаць блізкаму чалавеку.

Уладзімір глядзеў наперад з увагаю майстра свае справы, і ў вачах яго мне заўважылася нейкая прыхаваная хітрынка: «Лёгка вам, Васіль Кандратавіч, гаварыць, не ведаючы маладых жонак»,— чытаў я на яго твары.

Машына спускалася з узгорку. Тут, на подступах да Мінска, асабліва выразна былі відны сляды нядаўняй вайны: паабапал шашы валяліся разбітыя танкі, рыжэлі акопы, дзе-ні-дзе захаваліся дзоты. Але новае жыццё ўжо брала сваё. Будаваліся карпусы новых заводаў, паўставалі новыя жылыя кварталы.

— Павучаць навучыліся,— ціха прамовіў Уладзімір.— А самі...

Цяпер мы ехалі, як здавалася, больш імкліва, чым да гэтага. Відаць, таму, што вакол мільгалі пабудовы. Вуліцы былі запоўнены ажыўленым рухам, які пачынаецца ў горадзе з самае раніцы.

Неўзабаве мы былі на вуліцы Талстога. Я пазнаў яе, бо некалі хадзіў па ёй, як вучыўся ў педінстытуце. Не агледзеўся, як машына спынілася ля нізкага, прадаўгаватага драўлянага доміка. Насупраць нас была адчынена калітка.

— Зойдзем, Васіль Кандратавіч, у хату,— паклікаў мяне Уладзімір.— Уранку вам усёроўна некуды ісці. Паснедаем, а потым паедзем да цэнтра разам...

Павольна, неяк скурчыўшыся, бо звяло ногі ад доўгага сядзення, я вылез з машыны. Мне вельмі хацелася глянуць на Стася. Уладзімір ішоў наперадзе, я за ім. Раніца ўжо даволі смела гаспадарыла ў хаце. На кухні завіхалася Наталля Іванаўна, маладая, сярэдняга росту, даволі прыгожая жанчына. Яна ведала, ці здагадвалася, што Уладзімір з хвіліны на хвіліну заскочыць перакусіць — яму-ж зранку на працу.

У бакоўцы ля самых дзвярэй аднастайна спяваў прымус. Я павітаўся. Уладзімір адразу-ж сказаў пра мяне самыя пахвальныя словы, і жанчына крыху засмуцілася. Яна акінула мяне, так паказалася, даволі не прывабным позіркам і хуценька адвярнулася да свайго кутка, дзе было нешта падобнае на маленькую кухню. Чуўся пах нечага смажанага.

Пачалі распранацца. І толькі я павярнуўся да крука, які быў побач з дзвярыма, у другім канцы пакоя, як да Уладзіміра аднекуль падбег хлопчык, моцна ахапіў за шыю ручанятками і прыціснуўся ўсім целам да ягоных грудзей. Другі, значна меншы хлопчык, стаяў у адной сарочцы і гатовы быў абхапіць бацьку за калені. Уладзімір нахіліўся і падхапіў таго да сябе на другую руку і прыціскаў абодвух да грудзей.

— Браткі, дзеткі мае... — расчулена мармытаў ён.— Вось вам падарунак ад бабулькі прывёз...— і ён паднёс сыной да пакуначка, які ляжаў на стале.

Снедалі ўсе разам. За невялічкі стол не садзілася толькі Наталля. Яна ўсё нешта ціха поркалася ў сваім кутку. Мужчыны самі даставалі бабульчыны пачастункі.

Я не адводзіў вачэй ад шчырае, самааддане любві трох, ад бацькоўскае ласкі, якая відней была, чым ранішняе святло і мацней за любыя, самыя прыгожыя словы.

А Наталля налівала ўсім чай і, не зусім ласкава паглядаючы на бабчыны падарункі, моўчкі адыходзіла ад стала. Цяпер я поўнасцю зразумеў сэнс тых уладзіміравых слоў: «Павучаць навучыліся, а самі...» Наталля, відаць, усё яшчэ сердавала на маці Уладзіміра. Але ў маёй прысутнасці яна нічога не сказала, і я падумаў: «Абыйдзецца, прывыкне і яна да Стасіка. Такога хлопчыка нельга не палюбіць».





## МУЗЫЧНЫЯ ФОРМЫ Ў ТАНЦАВАЛЬНАЙ МУЗЫЦЫ

Мы спыняліся ўжо на асаблівасцях пабудовы двух- і трохчастковых музычных форм. Разгледзім, у якіх творах такія формы часцей за ўсё сустракаюцца і што гэтыя творы сабой уяўляюць.

Найбольш простай галіной прымянення двух-і трохчастковых форм з'яўляецца танцавальная музыка, г. зн. музыка, пад якую танцуюць (так званая прыкладная або ўласна-танцавальная музыка), і музыка танцавальнага характару, якая прызначана для канцэртнага выканання, а не для бытавых танцаў (напрыклад, паланезы Шапена, «Сентыментальны вальс» Чайкоўскага або мазуркі Скрабіна).

Да гэтай рознавіднасці музыкі адносяцца творы, якія заснаваны на танцавальных рытмах, прычым вельмі характэрных, з пастаянным рысункам рытмічнай фігуры, які ўвесь час паўтараецца. У сувязі з тым, што самі бытавыя танцы стварыліся на аснове народных танцаў, якія суправаджаліся найгрышамі на музычных інструментах і песнямі, дык і прыкладная танцавальная музыка развілася з мелодый гэтых найгрышаў і песень, захавала іх асаблівасці, музычную форму, рытм, чоткасць выдзялення моцных гукаў (доляў) мелодыі. Адсюль можна беспамылкова вызначыць на слых, што выконваецца — вальс або полька і г. д.

У сваю чаргу гэтыя спецыфічныя асаблівасці танцавальнай музыкі (прыкладной) перайшлі ў канцэртную танцавальную музыку, дзе пададзены ўжо ў больш складаным выглядзе, а таму не прымяняюцца ў бытавых танцах.

Сярод вядомых еўрапейскіх бытавых танцаў, што выконваюцца на працягу XVI—XIX стагоддзяў і маюць двух-і трохчастковую музычную форму, укажам на менуэт, гавот, сарабанду, жыгу, контрданс, вальс, мазурку, польку, галоп, тарантэлу, паланез, кракавяк, балеро, танго.

Коратка аб кожным з іх.

Менуэт — французскі па паходжанню танец, які атрымаў сваю назву з-за маленькіх крокаў, якімі ён танцаваўся («па меню» — маленькія крокі). Бытуе танец з XVII стагоддзя, музыка яго па характару дастаткова манерная, цырымонная і гучыць, як інструментальная, па сённяшні дзень, хоць танец ужо амаль не танцуецца.

Гавот — таксама старажытны французскі танец, умерана ажыўленага руху. Як і менуэт, гавот чатырохдольнага размеру і цяпер існуе толькі як інструментальны твор.

Старажытны іспанскі урачысты танец сарабанда вызначаецца павольнымі рухамі і трохдольным размерам. Як і папярэднія танцы, сарабанда ўваходзіла ў так званыя інструментальныя сюіты, музыкай якіх служылі танцавальныя мелодыі.

Жыга — старажытны англійскі вельмі быстры танец трохдольнага размеру — таксама адна з частак танцавальнай сюіты.

Англійскага народнага паходжання і контрданс («контры данс» — сельскі танец) — танец двухдольнага размеру, у якім змена фігур стварае ўражанне карагода.

З самага пачатку XIX стагоддзя вядучай танцавальнай формай бытавой і класічнай музыкі становіцца вальс (ад нямецкага: «вальцэн» — пракатваць), аснову якога складае плаўны рух мелодыі трохдольнага размеру.

Вальс у тым выглядзе, як мы ведаем яго цяпер, з'явіўся ў 20-я гады XIX стагоддзя. Яго папярэднікамі быў шэраг народных танцаў, на аснове якіх ён створаны аўстрыйскімі кампазітарамі І. Ланерам і І. Штраусам. Папярэднікі вальса — аўстрыйскія танцы «лендлер» і «шпір'ен» — па назве вобласцей), польскі «куявяк» (плясавая мазурка) і чэшскі «фурыянт» («ганарлівец», «зазнайка»).

Вальсы выконваюцца ў розных тэмпах, ад самых хуткіх да самых павольных, і маюць вялікія магчымасці ўвасобіць розныя вобразы, душэўны стан (фантастычны вальс, лірычны, журботны і г. д.). Неабходна таксама адзначыць тое, што кожная нацыянальная кампазітарская школа ўносіла ў жанр вальса спецыфічныя рысы. Успомнім, як адрозніваюцца вальсы Глінкі, Чайкоўскага або Глазунова ад вальсаў Штрауса, Шуберта, вальсы Моцарта і Бетховена ад вальсаў Равеля і г. д. Рознавіднасцю вальса з'яўляецца і вальс-бастон, павольны вальс з элементамі негрыцянскай музыкі.

Гаворачы пра музыку і формы вальса, неабходна ўказаць на яго таксама і як на састаўную частку многіх буйных і складаных твораў, такіх, як сімфоніі (пра іх будзем гаварыць у далейшых гутарках. У рытме вальса створаны многія песні і рамансы, хоць-бы: «Вот мчится тройка удалая» або «Средь шумного бала» Чайкоўскага, «В лесу прифронтовом» Блантэра.

Ва ўсіх гэтых выпадках вальс застаецца таксама трохдольнага размеру і таксама двух-або трохчастковай музыкальнай формы.

У наступным нумары мы раскажам пра іншыя ўзоры танцавальнай музыкі, якія пішуцца ў тых-жа музычных формах.

І. НІСНЕВІЧ.



Інжынер-канструктар аддзела галоўнага канструктара Мінскага аўтазавода Фаіна Шэленка, якая працуе над стварэннем новых узораў аўтамабіляў. Яе паспяховая творчая работа неаднаразова адзначалася адміністрацыяй і грамадскімі арганізацыямі завода.

Фото А. Дзітлава.



Адным з апошніх спектакляў з'явілася пастаноўка п'есы «Каханне Ані Бярозка». Гэтая вялікая, сур'ёзная работа, якая прапагандуе пытанні маралі і грамадскіх адносін знайшла асаблівую прыхільнасць у гледачоў.

На нашых здымках: эпізоды з спектакля «Каханне Ані Бярозка». Уверсе — Аня Бярозка (работніца промкамбіната Паліна Бакшанская) і акадэмік Бярозка (сталяр промкамбіната Іван Лугаўцоў). Унізе — Надзежда Маркаўна (старшы інспектар райсабеса Ада Навацкая) і Віталі Маркавіч (выкладчык сярэдняй школы № 2 Генадзі Цвяткоў).

А. Дзітлаў.

# Багушэўскія спектаклі

Паглядзіце на карту нашай рэспублікі. Паміж Віцебскам і Оршай на чыгунцы няцяжка знайсці маленькі населены пункт Багушэўск. Калі вам давядзецца пабыць там, абавязкова наведайце Дом культуры ў дзень, калі мясцовы самадзейны калектыў будзе ставіць спектакль.

Першае прадстаўленне адбылося там у канцы 1946 года. Тады гэта была нясмелая спроба паказаць некалькі сцэн з гогалеўскага «Рэвізора» і з камедыі А. Н. Астроўскага «Свае людзі, разлічымся». Поспех быў вялікі. Вопыту ў тэатральнай справе ні ў кога не было, але жаданне іграць на сцэне і здольнасці зрабілі ўсё. Вакол невялікай групы заснавальнікаў адразу-ж стаў аб'едноўвацца калектыў. Кіраўніцтва ім узяла на сябе мясцовая жыхарка, бухгалтар Раіса Барысаўна Сарочкіна.

Праз год багушэўцы ўдзельнічалі ўжо ў абласным аглядзе, падрыхтаваўшы да яго п'есу «Старыя сябры». Іх актыўнасць была адзначана журы. І ў Багушэўску сталі смела працаваць над новымі вялікімі спектаклямі. Так былі пастаўлены шырока вядомыя п'есы: «Шляхі-дарогі», «За другім фронтам», «Паўлінка», «Пяюць жаваранкі», «Выбачайце, калі ласка». На рэпетыцыі кожнага новага спектакля ішло да поўгода. Багушэўскія спектаклі сталі набываць усё большую вядомасць. На абласных і рэспубліканскіх аглядах на працягу некалькіх год багушэўцы атрымліваюць ганаровыя граматы і прэміі.

За дзесяць год існавання слаўнага калектыву ў ім выхаваліся многія маладыя людзі. Некаторыя з іх паспелі атрымаць вышэйшую асвету, вярнуцца ў родны Багушэўск і зноў узяцца за сшыткі з ролямі.

# ПАШКАЎ РЭЙС

Аляксей **КАРПЮК**



1

Яшчэ не паспелі высахнуць росныя травы, ля дарогі паміж альховых галінах блішчэла набраклае за ноч павуцінне. А глыбей у альшэўніку пратаіліся рэшткі туману, які месцамі працялі ўжо вострыя промні сонца. Расшчабяталіся птушкі. Кароткае рэха паўтарала ў альшэўніку галасы дзяўчат, якія з вёдрамі і тазамі выпаласканай бялізны вярталіся з рэчкі.

Усіх весяліла рагатуха Тося. Ёй дапамагала заўсёды, здавалася, шчаслівая Ліда. Адна з дзяўчат папрасіла:

— Хопіць дурэць, бо мне ад смеху баліць у грудзях!

Якраз з-за бугра выскачыла двухтонка. Ліда яе ўбачыла першая, перастала смяяцца і крадком паправіла на сабе хусцінку.

— Твой Пашка едзе, не зявай! — закрычала Тося.

— Патрэбен мне! — нядбайна заявіла дзяўчына, але прыадстала ад іншых.

З кабіны высунуў галаву Павел Аўдзеевіч— хлопец са скупым на ўсмешку тварам, простым носам і шэрымі, прыжмуранымі ад сонца вачыма, у якіх свяціўся хітры гумар.

— Эй, гусі, растапчу! — крыкнуў ён і накіраваў машыну на кампанію.

Замільгалі ногі. Смеючыся, дзяўчаты разбегліся ў розныя бакі. Адна Ліда, быццам абражаная, хмурыла бровы і заставалася на месцы. Яна сказала з прытворным абурэннем:

— Ужо зусім здурэў!

Дарога ўся была ў калдобінах, у некаторых, самых глыбокіх, стылі лужы. Пашка пад'ехаў да Ліды блізка і спецыяльна колам у лужыну — хлюп! Пырскі паляцелі ў бок дзяўчыны, але Ліда нават не азірнулася, толькі прыкусіла канец хусцінкі, стрымліваючы беспрычынны смех.

Пашка загамаваў машыну. Кабіна ў ёй была расквечаная бэзам.

— Бясплатна, па адной, заходзь! — запрапанаваў ён, адчыняючы перад Лідай дзверцы, але звяртаючыся быццам не да яе, а да іншых дзяўчат.

— Пешшу ходзім. Баімся шаўковыя сукенкі памяць! — не азіраючыся адрэзала Ліда.

— Давай вязі! — віснула Тося і з поўным тазам высціранай бялізны на бядры накіравалася да кабіны. Але шафёр гэтага не заўважыў, ці мо' прыкінуўся, што не бачыць.

— Не хочаце? Ну, прывітанне! — крыкнуў ён.

І машына, ляскаючы пустымі бартамі, паімчала на гару, бліснуўшы дзяўчатам на развітанне чырвоным вочкам стоп-сігналу.

— Як чо-о-орт! — з захапленнем праводзячы машыну вачыма, сказала Тося да Ліды і апяклася. Лідзіны вочы глядзелі на сяброўку з нянавісцю.

2

— Язджай ў горад па мінеральнае! — запыніўшы шафёра, загадаў старшыня. — Павазі яго сёння...

— Ладна...

Ускочыўшы ў вёску, Пашка збочыў пад студню, выключыў матор і азірнуўся. Паміж дзяўчатамі Ліды не было.

«Агародамі, відаць, пайшла!» — падумаў ён з жалем.

— Віктар, хадзі сюды! — паклікаў ён падлетка.

Калі падлетак усадзіў галаву ў кабіну, Пашка даў яму закурыць, а потым зашаптаў на вуха.

— Будзь спакойны! — запэўніў Віктар сябра і накіраваўся на агароды.

Шафёр вылез з кабіны, дастаў вядро вады са студні і па кабіне — плюх! Потым гэтак сама выліў другое і трэцяе.

— У раён еду! — сказаў ён людзям, якія пачалі збірацца вакол машыны.

Умомант знеслі яму пісьмы, папрасілі ўкінуць іх у горадзе ў паштовую скрынку.

— Ладна, укіну! — паабяцаў шафёр, не здольны адарваць вачэй ад агародаў. Потым, каб не забыць, пазасаджваў канверты перад сабой за ветравое шкло і вырулеў машыну на дарогу.

Настаў такі час: трэба цётцы ў суседнюю вёску, яна, бачыш, не можа інакш туды дабрацца, як толькі на машыне. Выйдзе на дарогу і чакае. А ўлезе ў кузаў і ведае, куды садзіцца, каб менш яе падкідала.

І ў пустую пашкаву машыну ўмомант насялі пасажыры: старыя цёткі з клумкамі, маладзіцы з граблямі, якія ехалі на поле, брыгадзір, конюх з вуздэчкамі на плячы.

Аўтаінспекцыі на прасёлачных дарогах не бывае, людзі ў кузаве пасталі ў поўны рост, ухапіліся за кабіну, адзін за другога, дружна нагіналіся перад галінамі дрэваў, забываючы пра ўсё на свеце. Чуючы млосную прыемнасць у напружаных мускулах, трымаючы пругкія рычагі і баранку, дзікаму захапленню аддаўся і Пашка. Ды калі ўсе былі ап'янелыя ад язды, адна цётка спахапілася, што ёй трэба ўжо даўно злазіць, паспешна пастукала па кабіне. Машына спынілася, людзей кінула ўперад, і доўга не змаўкаў смех.

— Навошта барабаніш? Думаеш, глухі? Ты ў кузаве толькі павернешся, а я ўжо чую!— без злосці чытаў мараль шафёр цётцы, пакуль яе праз кола спускалі з кузава.

Паступова апусцеў кузаў, у кабіне застаўся адзін Пашка.

Вось і пабеглі насустрач ліпавая алейка, брук і першыя гарадскія мураванкі. Пашка сцішыў ход, насцярожыўся. Тут вуха трымай востра! У адным месцы на тратуары совалі нагамі банку ад гуталіну, гулялі ў класы дзяўчынкі; з імі дражніўся хлопчык. Ці не выбежыць ён раптам на брук?.. Не, не выбег. Далей з падворку выскачыў сабачка, ледзь не пад колы машыне.

Той не шафёр, хто глядзіць толькі на дарогу. Пашка меў звычай сачыць за ўсім, што адбывалася навокал. Вось уперадзе злева горка. На горцы з нейкім чалавекам гутарыць нейкая жанчына. Ля іх на веласіпедзе сядзіць хлопчык, нагой упёрся ў зямлю і сочыць за машынай. «Ага, падрыхтаваўся ўжо, задзіра, прашмыгнуць мне праз дарогу перад маторам!» — разгадаў намер хлопчыка шафёр і паставіў нагу на тормаз, выключыў газ. І ў самы час. Бо хлопчык адпіхнуўся нагой і кінуўся з гары. Але ў апошнюю хвіліну ён спужаўся, стаў тармазіць і з маху ўдарыўся ў пярэдняе кола машыны, калі тая якраз спынялася.

— А-яй, забілі! — дзікім голасам заенчыла жанчына і кінулася з гары да сына.

Пашка ўжо стаяў над веласіпедыстам і лаяў яго.

— Ах ты, п'яніца, напіўся і дзіця пераехаў! Дзе тая міліцыя, чаму п'яным шафёрам дазваляе ездзіць! — напала на Пашку жанчына.

— Вы не крычыце! Лезьце ў кузаў! Паедзем у аўтаінспекцыю на аналіз. — Пашка стаў закідаць у машыну веласіпед і хлопчыка.— Я вам пакажу «п'яніцу»!

— Ваш сын сам вінаваты! — заўважыў нехта з натоўпу, які ўжо збіраўся.

— Лезьце, лезьце ў кузаў, хутчэй!

— Бач ты яго, рызыканта, перад машынай дарогу пераязджаць...

— Гэта яны гэтак волю гартуюць! Дзеці. Мы таксама такімі былі!

Пабачыўшы, што справы дрэнныя, жанчына змоўкла. Пашка яшчэ крыху яе папужаў, тады зняў з кузава хлопчыка, веласіпед, велікадушна прамовіў:

— Ладна. Другі раз лепей глядзіце свайго сына!

Двухтонка паехала на склад.

3

Пашка да вечара вазіў з горада штучнае ўгнаенне, вярнуўся дамоў позна. Позна прыйшоў дахаты і яго бацька.

Пашкаву маці конь забіў капытом, калі яна капала ў пана бульбу. Гэта здарылася яшчэ ў панскай Польшчы. Пасля маці ў хаце засталіся на вокнах у вышчарбленых гаршках запыленыя вазоны і ў покуце чорны, заседжаны мухамі абраз.

У хаце доўга гаспадыняй была адзіная пашкава сястра. Ды два гады таму назад яна ў суседнюю вёску выйшла замуж. Зараз заглядала да сваіх мужыкоў, як яна называла бацьку з братам, разы два на месяц: наводзіла парадак і спяшалася дамоў.

І бацька з сынам жылі ўдвох. Хату падмяталі мяшком. Ежу варылі на чорнай ад сажы пліце. Гэтым займаўся стары, які кожны раз, распальваючы пліту, праклінаў яе.

— Ты што сёння вазіў? — спытаўся бацька ў сына.

— Мінеральнае з горада.

— А я цукровыя буракі ўбіраў...

Стары нарэзаў цэлую патэльню сала, паставіў на пліту, сеў перад печчу на калодку і з надзеяй стаў глядзець на слаба тлеўшую сырую вольху. Тады пачаў дзьмухаць. Дзьмуў,

дзьмуў, што аж кроў набегла ў вочы і стаў прасіць:

— Ну, гарыце-ж вы, нарэшце!.. О, зараз вам дам падмацаванне!

Стары ўзяў бутэльку газы, плюхнуў яе ў печку. У печы загуло, шкваркі зашыпелі.

— Ну, нарэшце, заварылі, — з палёгкай уздыхнуў ён.

У бацькі на галаве — зашмальцаваная вушанка — вухам наперад. Рукі паабіваныя і паабпяканыя. На старым няма ніводнага белага кусочка матэрыі: усё шэрае або чорнае. У хаце ёсць толькі бадай адна бялейшая палатніна — колішняя сурвэта. Яе кладуць на стол перад вячэрай, калі старшыня калгаса прывядзе каго-небудзь нанач. У хаце ўсе іншыя пахі забіваў пах бензіна і жалеза.

— Ой, найцяжэйшую работу-б рабіў, абы толькі не вазіцца з гэтай печчу! — прабурчэў стары і тыцнуў пальцам у пліту. Потым, быццам сыну было дзесяць год, крыкнуў:

— Пашка, а ну, на заўтра дроў прынясі!

Сын, які, памыўшыся і прычасаўшыся, чакаў вячэры, пакорна ўстаў з лавы і пайшоў на двор.

У хаце пад акном стаяў стол. На стале, сярод акрышак — бохан чэрствага хлеба. Побач — кускі радыятара, вінты, жалязякі, большыя і меншыя. У шклянках і кубках — поўна цвікоў, шурупаў, рознага памеру шарыкаў. Ад стала ўздоўж сцяны — лава. У кутку на лаве — мяшок цукру. Калгас некалькі гадоў узапар атрымлівае добрыя ўраджаі цукровых буракоў, на іх за лета стары зарабіў да сямісот працадзён. Цукру хапае.

Стары ўстаў з калодкі, узяў талерку, змахнуў з яе нешта рукавом, для большай упэўненасці дзьмухнуў яшчэ на яе, зачарпнуў талеркай у мяшку і панёс да стала. Крупінкі цукру пасыпаліся на падлогу. Бацька хацеў іх змесці нагой, рассыпаў яшчэ больш, махнуў рукой. Было чуваць, як пад ботамі хрумсціць.

Пашка прынёс дроў, змаху бразнуў іх пад пліту, моўчкі сеў зноў ля стала. Стары апусціўся на сваю калодку, узбіў на лоб шапку і задуменна стаў чухаць патыліцу. Гледзячы на агонь, загаварыў невядома да каго:

— Дзеўку трэба. Але дзе ты яе возьмеш? Каб гэта было так, як боты: пайшоў у магазін, купіў, якія трэба... А так жаніся, паспрабуй... Ого, што такое жаніцца, я ведаю. Сам два вяселлі зрабіў... Гм... Каб быў якім-небудзь нішпектарам, або ніжынерам, дык, нябось, ажаніўся-б хутчэй. А так што, шафёр...

Пашка ўсё маўчаў. Выраз яго твару быў вінаваты, лоб упарта настабурчаны, вусны заціты. Здавалася, ён быў цалкам пад уражаннем таго, што гаварыў бацька. Але гэта была толькі вонкавая маскіроўка, якую ён яшчэ займеў у дзяцінстве, слухаючы бацькаву мараль за парваныя штаны ці за суседавы грушы. Зараз ён не чуў бацькі і думаў адно: выйдзе Ліда на вуліцу ці не. А заняты гэтай праблемай, Пашка механічна гуляўся з нажом: засадзіў яго ў шчыліну паміж дошак стала і выкалупваў адтуль векавыя залежы. Здавалася: бацька зараз гэта ўбачыць, устане, падыйдзе і вытне сына па руках.

— Ну, еш! — заявіў бацька са скупой цеплынёй у голасе. І з нязграбнасцю старога чалавека ён, згорблены, панёс да стала патэльню і гаршчок.

Стары з бохана адрэзаў дзве лусты, даў адну сыну, другую ўзяў сам, і яны сталі есці, запіваючы моцна насалоджаным варам. Стары зноў разважаў пра дзяўчат, а ў Пашкі па-ранейшаму лоб быў заклапочаны, але гэта яму не перашкаджала са смакам есці.

У хату ўбег Віктар. Улучыўшы момант, калі стары адхіліўся, падлетак шапнуў:

— Ідзі хутчэй! Яна ўжо там чакае, ну!

— Іду! — як уджалены, падскочыў Пашка.

...А над вёскай стаяла цудоўная месячная ноч. Дзесьці таропка пыхцеў маторчык кінаперасоўкі. Пахла свежым малаком. Дзьмуў лёгкі ветрык, ад якога ўсё навокал шамацела.

**Калгас імя Сталіна**
**Берастовіцкага раёна**
**Гродзенскай вобласці.**

# Аднойчы вечарам

**А. ПУШКАРСКІ**

Як толькі над горадам згушчаецца змрок і тысячы ліхтароў запальваюцца, каб разагнаць яго, залітыя святлом вуліцы запаўняюцца публікай. Адны пасля рабочага дня выходзяць падыхаць свежым паветрам, паказаць сябе і на другіх паглядзець, другія — прагульваюцца ў чаканні чарговага сеанса, а пад гарадскімі «курантамі», або дзе-небудзь ля тэатральнага пад'езда нецярпліва тупаюць тыя, хто прызначыў спатканне. У гэтым непаспешлівым, шумлівым натоўпе яшчэ там-сям шныраюць хлапчукі і дзяўчынкі: і тыя, што ідуць з вячэрняй змены, і тыя, што падрыхтавалі ўжо ўрокі, выбеглі на хвілінку, ды так і трапілі ва ўладу мітусні і весялосці.

Кожнага вуліца прыцягвае сваім неўтаймаваным кіпучым жыццём. Дарослы тут сустрэне знаёмага і непрыкметна прастаіць гадзіны са дзве. Дзецям цікава паштурхацца сярод людзей, нават у хованкі пагуляць тут больш радасна, чым на даўно знаёмым і цесным двары. Вуліца для кожнага заўсёды новая і непазнавальная, таямнічая, варта толькі да яе прывыкнуць. І няма нічога дрэннага ў тым, што ў людзей кожнага горада ёсць свая вуліца або плошча, любімае месца сустрэч і прагулак.

Але ёсць у вуліцы і другая асаблівасць. Людзей слабых воляй і духам яна часам калечыць. І як часта можна пачуць, што чалавека знявечыла вуліца. У гэтае слова звычайна ўкладаюць не канкрэтнае ўяўленне, — заасфальтаваную дарогу між дамоў, — а абстрактнае разуменне — сукупнасць усіх зборышч і скапленняў народа. Рэдка каму, бадай, прыходзіць у галаву, што ўжо калі і знявечыла каго вуліца, дык вельмі часта з-за абыякавасці і роўнадушша нас-жа саміх. Спыні мы ў свой час хлапчука, які пазней вызначанага часу бегаў па вуліцы, пагавары з маладым чалавекам, які вельмі ўзбуджана трымаў сябе, — і, магчыма, адзін з іх не залез-бы ў чужую кішэню, а другі — не звязаўся-б з хуліганамі. І гэта не рытарычныя сцверджанні, а падмацаваныя фактамі і практыкай вывады.

Гэтая доўгая прадмова патрэбна была для таго, каб хоць часткова абгрунтаваць той (гэта можна сказаць, не баючыся перабольшыць) патрыятычны рух, які зараз разгортваецца ў кожным горадзе. Праўда, не ўсюды яшчэ комсамольскія і іншыя грамадскія арганізацыі надаюць яму належную ўвагу. Я маю на ўвазе пачэсную дзейнасць брыгад садзеяння міліцыі.

Не ў кожнага чалавека хапае, шчыра кажучы, смеласці, каб спыніць хулігана. Не мала ў нас людзей абыякавых, роўнадушных, якім ні да чаго няма справы: курыць хлапчук — хай курыць, кідае на тратуар смецце расфранчаны стыляга — таксама няхай: мая хата з краю. Іншая справа, калі хто закране такога абыякавага суб'екта. Ну, тады ён будзе з месяц бурчэць, што ў нас няма парадку, што міліцыянеры толькі дарэмна атрымліваюць грошы. І такому затуленаму ў каракулевы каўнер

У дзіцячым пакоі. Ніна Драніца разам з брыгадмільцамі гутарыць з Анатолем Грубавым.



мешчаніну не зразумець, што міліцыянер, па-першае, стаіць на пасту, каб дапамагчы грамадскасці ў барацьбе з нездаровымі з'явамі быту, а па-другое, хоць-бы ён і хацеў папярэдзіць усе выпадкі парушэння правіл соцыялістычнага агульнажыцця, дык ён не змог-бы. І вось тут вялікую ролю адыгрываюць брыгадмільцы — людзі, якія добраахвотна дапамагаюць у барацьбе з бескультур'ем і хуліганствам.

Аднойчы вечарам, калі за вокнамі запальваліся агні, у кабінеце Уладзіміра Максімавіча Мешчарука — начальніка другога аддзялення міліцыі горада Брэста сабралася група брыгадмільцаў. Былі тут і ветэраны слаўных брыгадмілаўскіх спраў і пачынаючыя, пажылыя дзядзькі і безвусыя хлопцы, якія, што грахі таіць, пры іншых абставінах, можа, і самі пашкольнічалі-б, і нават дзве дзяўчыны.

Канешне, кожны брыгадмілец марыць зрабіць нешта важнае: затрымаць рэцыдывіста або бандыта, але паколькі ў Брэсце не часта здараюцца выключныя здарэнні, дык брыгадмільцы вымушаны задавальняцца больш празаічнай, але, на наш погляд, найбольш удзячнай дзейнасцю. Вось пра скромную іх работу ў той вечар і хочацца расказаць.

У часы пік на вуліцы Леванеўскага, на аўтобусным прыпынку поўна народу. Кожны хоча хутчэй трапіць дадому. Калі-б тут спыняўся адзін аўтобус, дык устанавіць чаргу было-б не цяжка. Але паспрабуй стварыць тры чаргі. На прыпынку мы засталі брыгадмільца Корвата. Спачатку мы глядзелі здалёк, як дапамагае паставому наводзіць парадак гэты немалады, вельмі спакойны чалавек.

Вось, таранячы натоўп, пагарджаючы чаргой, да дзвярэй аўтобуса шыбуе вярзіла.

— Якая твая справа?— шчэрыцца ён на паставога. — Мне дамоў хутчэй трэба. Не тое, што ты, я напрацаваўся.

У натоўпе чуваць спагадлівыя галасы: вось, рабочаму чалавеку не спачуваюць. Але тут да вярзілы падыходзіць Корват.

— Я сам рабочы і таксама ўвесь дзень працаваў. І ўсе працавалі,— і ён рабочай мазолістай рукой бярэ за плячо парушальніка парадку.

Цяпер у натоўпе ўсе за брыгадмільца.

— Правільна, усе працуем!

Вярзіла вымушаны стаць у чаргу.

Вось Корват дапамагае бабульцы сесці ў аўтобус, не дае хлопчыку ўскочыць на хаду на падножку. І ўсё гэта робіцца спакойна, без традыцыйных свісткоў і выгукаў: «Грамадзяне!..»

Я ўспамінаю словы брыгадмільца Міхаіла Сцяпанавіча Ціхамірава. На маё пытанне, ці слухаюцца яго хуліганы, калі ён дае ім заўвагу, Міхаіл Сцяпанавіч адказаў:

— А як-жа, слухаюцца. Рука ў мяне рабочая, кавалём працаваў.— Падумаў крыху і дадаў: — Толькі я яе ніколі ўдарам не запэцкаў, нават тады, калі прафесіянальных злодзеяў затрымліваў. Было гэта аднаго разу так. Мы, брыгадмільцы, заўсёды на пасту. Заходжу я ў магазін і бачу: два мужчыны вельмі завіхаюцца ля прылаўка, дзе сабраліся жанчыны. Ну, я папрасіў нейкую рэч, пытаюся пра цану, а сам цікую. Гляджу, залезлі яны да адной жанчыны ў сумку, выцягнулі грошы, адзін другому перадалі. Зараз, думаю, уцякаць будуць. Я да дзвярэй. І кажу ім: аддавайце грошы. Яны-ж не ведаюць, што я брыгадмілец і нішто мне не страшна, а толькі пужаюць. Я згроб абодвух. Вось тут, як пачулі яны маю сілу, дык і запрасіліся: не вядзі нас, кажуць, у міліцыю. Грошы пяцьсот рублёў вярнулі жанчыне.

Па Савецкай вуліцы нам сустрэліся Шустаў і Валынец, комсамольцы тэхнічнага вучылішча № 10. Абодва ўпершыню дзяжураць па гораду, але ўжо добра асвоіліся са сваімі абавязкамі.

На падаконнік вітрыны магазіна ўзлезлі два хлапчукі. Нічога дрэннага яны не робяць, і намеры ў іх найлепшыя. Але, забыўшыся, дзе яны знаходзяцца, адзін штурхае другога. Варта аднаму ўпасці і дарагая вітрына будзе разбіта. Па вуліцы ідуць людзі, некаторыя спакойна заўважаюць: «Свавольнікі, таго і глядзі разаб'юць шкло»,— і праходзяць міма. З-за вугла паяўляюцца Шустаў і Валынец.

— Рабяты, злазьце і ніколі больш не рабіце так,— строга гавораць яны.

Школьнікі надоўга запомняць гэтае папярэджанне.

Па дарозе Шустаў і Валынец заглянулі ў касавы зал кінотэатра. Тут іх увагу прыцягнулі тры дзяўчыны. Нафарбаваныя, чыста апранутыя, яны стаялі ў куточку, лузгалі семечкі і плявалі шалупінне на падлогу.

Калі-б заўвагу дзяўчатам зрабіў міліцыянер, дык яны, напэўна, і вухам не павялі-б: маўляў, яго служба такая. Але тут заўвагу зрабілі хлопцы, ды да таго яшчэ маладыя і прыгожыя, і дзяўчаты вымушаны былі прасіць прабачэння.

А ў гэты час у дзіцячым пакоі міліцыі, разам з памочнікам інспектара малодшым лейтэнантам міліцыі Нінай Драніцай дзяжурылі Зося Маісеева, зменны майстар атэлье, і Людміла Мандрык, вучаніца гэтага-ж атэлье. У жанчын таксама было многа спраў. Брыгадмільцы на базары падабралі вучня VII класа Збуражскай школы Маларыцкага раёна Івана Захарчука. Ён прыехаў на базар з суседам і адстаў ад яго. Што рабіць у незнаёмым горадзе? Брыгадмільцы прывялі яго ў дзіцячы пакой.

Віктар Гарабец, вучань шостай школы, спрабаваў прайсці ў кіно ў недазволены час. Паколькі ён ужо не раз парушаў правілы агульнажыцця, яго прывялі ў дзіцячы пакой.

Але больш за ўсё клопатаў прынёс Анатоль Грубаў. У Анатоля ў 9 гадоў дзевяць прыводаў. Не падумайце, што гэты хлапчук зусім сапсаваны. Не, гэта вельмі дапытлівы, жывы, разумны хлапчук. На вялікі жаль, хлопчык з самых малых год выхоўваецца на вуліцы, на той вуліцы, якая можа псаваць слабых.

Хоць маці хлопчыка Р. Грубава-Падольфава нідзе не працуе, яна не вельмі цікавіцца жыццём свайго сына. Хлопчык галадуе, да позняй ночы гуляе па гораду. Некалькі разоў маці прапанавалі аддаць сына на выхаванне дзяржаве, але яна не згаджаецца. І вось у той вечар брыгадмільцы пайшлі да Р. Грубавай. Сурова, але чэсна гаварылі яны з маці, якая з-за сваіх асабістых інтарэсаў вядзе сына да турмы.

— Мы падымем грамадскасць супроць вас,— заявілі яны Грубавай.

І гэта зрабіла на Грубаву ўражанне. Не толькі міліцыя, а і людзі, простыя совецкія людзі, стаяць на варце правіл захавання соцыялістычнага агульнажыцця.

В. М. Мешчарук, развітваючыся, гаварыў нам:

— З таго часу, як пачалі дзяжурыць брыгады садзеяння міліцыі, у нас выпадкі хуліганства сталі рэдкай з'явай. Гэта вельмі важна, што самі людзі сочаць за парадкам. І вельмі шкада, што наш гарком комсамола яшчэ зусім мала цікавіцца такім важным комсамольскім даручэннем, якім з'яўляецца ўдзел комсамольцаў у брыгадах садзеяння міліцыі.



Брыгадмільцы дзяжураць у кінотэатры.



Гэты хлопчык незнарок мог-бы разбіць вітрыну, але яго ў час спыніў член брыгады садзеяння міліцыі.



У пакоі дзяжурнага. Затрыманы злодзей, які краў муку.

# Беларускія цукравары



Там, дзе некалі была пустка ды чэзлы хвойнік, воляй савецкіх людзей узняліся прасторныя цэхі першага ў рэспубліцы Скідзельскага цукровага завода, карпусы рабочага пасёлка. Шосты год, як працуе першынец цукровай прамысловасці ў Беларусі.

На маладым прадпрыемстве выраслі свае выдатныя кадры, якія добра асвоілі ўсе працэсы вытворчасці цукру. Антаніна Ушкевіч прышла на завод яшчэ ў той час, калі тут ішло будаўніцтва. Дзяўчыну зацікавіла праца на дыфузійнай батарэі. Паспяхова скончыўшы вучобу ў гуртку тэхнікума, яна ўзначаліла брыгаду на гэтым адказным участку. Цяжка было Антаніне на першым часе: нехапала практыкі. Але з часам гартавалася сталасць, расло вытворчае майстэрства. Маладому брыгадзіру шмат дала паездка на практыку да жардзеўскіх цукравараў у Тамбоўшчыну. Зараз камсамолка Антаніна Ушкевіч — лепшы брыгадзір завода. Яе брыгада кожны месяц перавыконвае вытворчае заданне, дабіваецца значнага зніжэння страты прадукцыі.

Цікавыя вытворчыя біяграфіі і многіх іншых маладых цукравараў. Апаратчыкі-камсамолкі Ніна Балдоўская і Надзя Грэсь два гады назад былі рознарабочымі ў транспартным цэху. Імкненне да ведаў, да авалодання вытворчасцю дапамаглі дзяўчатам набыць новую, складаную прафесію. Перавыконваючы нормы выпрацоўкі на сваім новым участку, яны даюць прадукцыю толькі высокай якасці.

Звыш тысячы чалавек працуе на цукровым заводзе, і добрая палова заводскага калектыву — моладзь. Тут шмат маладых працаўнікоў, якія нядаўна скончылі сярэднюю школу і набылі самыя рознастайныя спецыяльнасці. Ёсць таксама нямала такіх, хто сумяшчае працу на прадпрыемстве з вучобай у вячэрняй школе. Комсамолец Віктар Марчанка, напрыклад, скончыўшы сярэднюю школу, прышоў на завод і за кароткі час добра асвоіў складаную спецыяльнасць. Хутка сталі кваліфікаванымі рабочымі нядаўнія дзесяцікласнікі Насця Дабрыянец, Анна Сытая, Ольга Дзяжко і многія іншыя.

Гэта яны, маладыя працаўнікі, рухаюць уперад вытворчасць, дамагаюцца прагрэсу на прадпрыемстве. Прынятае абавязацельства рабочага калектыву — датэрмінова выканаць гадавы план выпуску цукру і звыш плана даць 70 тысяч пудоў — выконваецца з гонарам. У кастрычніку звыш плана выпушчана 8 тысяч пудоў цукру, у лістападзе — не менш.

У вольны ад працы час моладзь ідзе ў свой клуб, дзе створаны ўсе ўмовы для вясёлага адпачынку.



Тут працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці: харавы, танцавальны, струнны і драматычны, у якіх з ахвотай удзельнічаюць маладыя рабочыя, паказваюць свае таленты.

Беларускія цукравары поўныя рашучасці перавыканаць заданне новай пяцігодкі, даць народу ў дастатку высокаякаснага цукру.

**А. МЕЛЬНІКАВА,**
**інжынер завода.**

Фото С. Чыргшкіна.



# Справа аб скрыньцы

**Л. ВІРНЯ**

Сцэнарый кінофельетона

Мал. Н. Лебедзевай.

...Зала суда. Адказчыца, істцы, шматлікія сведкі і проста публіка. За сталом суддзя і народныя засядацелі. Адзін адвакат сядзіць каля правай трыбуны, другі — каля левай. Паглядаючы раз-по-разу адзін на аднаго, яны хуценька перабіраюць паперы ў сваіх даволі аб'ёмістых папках. Суддзя таксама раскрыў папку.

(Буйным планам): «Справа па іску членаў сям'і нябожчыка-прафесара Златацветава да Галіны Сцяпанаўны Златацветавай (уроджанай Карзінавай) аб раздзеле маёмасці».

Шум у зале. Дзынкнуў званок суддзі.

Ісціца, дачка Златацветава, хвалюецца. Ёй, відаць, цяжка гаварыць.

— Вось так яно здарылася, — звяртаецца яна да суддзі і народных засядацеляў, — але вы, суддзі, уважліва паглядзіце на гэтую фанабэрыстую дамачку. Яна, як вы можаце заўважыць, вызначаецца не толькі маладосцю, але і зайздросным здароўем... Што-ж магло быць агульнага ў Галачкі Карзінавай са старым чалавекам, разбітым усякімі хваробамі?

Голас з публікі: Прафесарская кішэня.

Ажыўленне ў зале, званок суддзі.

Адказчыца спачатку склала густа нафарбаваныя губы ў іранічнай усмешцы і кінула пагардлівы позірк на істцоў і сведак, а потым, нібы апамятаўшыся, прыняла выгляд нявінна абражанай ахвяры.

Ісціца: Разам з тым я хачу падкрэсліць: усё, нажытае працай членаў сям'і, у тым ліку і бацькам, прафесарам касерваторыі, ніколі не дзялілася на «маё» і «тваё». І не цяжка зразумець, што ўсё тое, што за кароткі тэрмін, а правільней за адзін год сумеснага жыцця з маім бацькам, трапіла ва ўчэпістыя рукі Карзінавай, дзесяцігоддзямі нажывалася ўсёй нашай сям'ёй... Не паспелі яшчэ высахнуць слёзы на магіле маці, з якой бацька пражыў 35 год, як, нібы з неба, звалілася «суцяшальніца» бацькі ў асобе гэтай Галачкі Карзінавай. Яна хутка ўвайшла ў давер'е і...

Ісціца хвалюецца. Яна вымае хустачку з сумачкі і выцірае вочы.

Канец жніўня 1954 года. Неба без адзінай хмаркі, блакітнае-блакітнае... Яшчэ па-летняму цёпла, нават горача, але «с берез — неслышим, невесом — слетает желтый лист...» Пад'езд. Відаць шыльда ЗАГСа. Сюды, крыху саромячыся, накіроўваецца парачка. Прахожыя — і старыя, і маладыя — ахвотна дораць ім добрыя ўсмешкі і дадаюць.

— Ёй семнаццаць, ну, ад сілы восемнаццаць, — кажа нехта з публікі.

— А яму, бадай што, гадкоў дваццаць будзе! — заўважае другі.




— Нармальная парачка, — салідным басам гаворыць, відаць, сваёй спадарожніцы жыцця, нейкі сівагаловы мужчына.

Шырока расчыняюцца дзверы. З ЗАГСа насустрач жаніху і нявесце выходзяць «маладажоны». Яна — высокая чырвонашчокая маладзіца, не ідзе, а нібы плыве, як пава. Ён — добрапрыстойны старычына залішне і ненатуральна мітусіцца, дробна тупаючы за ёй.

— Вось гэта ўжо сапраўдны брак! — заўважае жанчына з авоськай, напоўненай чырвонымі памідорамі.

— Называецца шлюб! — абураецца нейкая дзяўчына з комсамольскім значком на белай блузцы.

— Усёроўна брак, — настойвае каржакаваты чыгуначнік. — Шкада толькі, што з такім бракам ніякай барацьбы не вядуць.

А «маладыя» тым часам шэпчуцца:

— Ну, цяпер, мая Галачка, ужо нікуды ад мяне не паляціш! — прыжмурваючы падслепаватыя вочы і скрывіўшыся ад сонечных праменняў, жартуе прафесар Златацветаў.

— А куды-ж мне ляцець?

— І цяпер ты яшчэ дзіцянё!

— Чвэрць стагоддзя была дзіцянём, а цяпер жонка прафесара.

І новаспечаная прафесарша важна крочыць ад толькі што атрыманай перамогі ў ЗАГСе да новенькай прафесарскай «Пабеды».

...Дарога Мінск — Рыга. Цудоўны краявід. Ляціць «Пабеда». «Маладажоны» спраўляюць вясельнае падарожжа. Рыга — цудоўны горад. Мільгаюць дамы на шматлюдных вуліцах, шырокіх плошчах. Вось і раскошны мэблевы магазін. Славутая рыжская мэбля! «О, які камфартабельны гарнітур», — захапляецца Галачка. Каса. Прафесар раскашэльваецца. Камісійны магазін. Чорнабуркі, найтанчэйшая шэрсць, найдаражэйшыя футры. «Цудоўна, цудоўна!» — расчулена шчабеча прафесарша. Зноў каса, і зноў прафесар расплачваецца. Універмаг. «Маладажоны» разглядаюць чайныя і сталовыя сервізы. «О, гэта-ж проста казка!» — не сунімаецца Галачка. «Надзвычайна, надзвычайна!» — захапляецца і прафесар, прытрымліваючы пры гэтым сэрца, якое, відаць, рвецца з грудзей ад лішку нечакана нахлынуўшага сямейнага шчасця...

...Балтыйскае мора. Пляж. Прафесар загарае ў гарнітуры пры гальштуку. Прафесарша ляжыць у спакуслівай позе.

— Татачка, я хачу такі баль закаціць, каб небу горача стала. Разумееш, татачка? — шчабеча Галачка, зажмурыўшы ад асалоды вочкі. — Маю-ж я, нарэшце, права татай цябе назваць, калі дзеці твае намнога старэй за мяне.

— Маеш права нават быць царыцай бала! — узнёсла дэкламуе Златацветаў, і на азызлых яго шчоках гуляе нездаровая чырвань.

...Прыморская дача на рыжскім узбярэжжы. Багата сервіраваны стол, шум, тосты. Нейкі стыляга фальшыва, але зладвесна рагоча пад Мефістофеля: «Людзі гінуць за метал, за метал! Сатана там правіць баль, правіць баль...» Апладысменты. Перахапіўшы мефістофельскую ўсмешку, Галачка, шчаслівая, накіроўваецца да «татачкі». У яе руках два бакалы віна.

— Вып'ем, татачка, за тваё здароўе.

— Нельга-ж мне, Галачка, ці ты гэтага не ведаеш?

— Нічога, са мной ніякая хвароба да цябе не прыстане.

Дыктар: Яе нястомную энергію вытрымлівае пакуль што кішэня прафесара. Але сам ён ужо здае пазіцыі.

...Хвароба прыкавала прафесара да пасцелі. Пасярод пакоя той самы стыляга. Ён наладжвае скрыпку. Іграе. Спачатку няўпэўнена, а потым стройна. Цудоўныя гукі напаўняюць пакой. Яны вырываюцца на вуліцу. Слухаюць прахожыя. Прагучэў апошні акорд, і малады скрыпач кладзе скрыпку ў футляр і гаворыць са шчырым замілаваннем:

— Які цудоўны інструмент, прафесар!

— Гэта скрыпка славутага італьянскага майстра Амацi! Самае дарагое, што ў мяне ёсць. (Прафесар вымае скрыпку з футляра, некалькі разоў праводзіць смычком і пасля доўгай паузы дадае):

— Вялікі Паганіні завяшчаў свае выдатныя скрыпкі, сярод якіх і скрыпка Амацi, калегам, ды не



толькі сябрам, але і ворагам. (Паўза). Але я хачу на ёй яшчэ іграць.

— А як-жа інакш? — заспяшаўся стыляга. — Хутка канцэрт! Вы-ж, прафесар, першую скрыпку іграеце ў квінтэце Шумана...

...Стыляга і Галачка на гушкалках. Музыка. Розныя эфектныя атракцыёны. Гушкалкі ўзлятаюць высока.

Прафесар адзін. Побач з ім ляжыць скрыпка. Ён садзіцца і прабуе іграць. Але хутка стамляецца. Яго трасе. Ён у роспачы круціць галавой, а потым шчыльна захутваецца ў коўдру.

Дыктар: Галачка таксама хварэе ліхаманкай. Але другой. Буйным ветрам ужо носіць яе па вуліцах Вільнюса.

Галачка прымярае дарагую футру. «Найлепшыя лейпцыгскія шкуркі! Мадам, вы будзеце мець шыкоўнае манто! Гэта гаворыць вам самы модны віленскі кравец». Галачка круціцца перад люстэркам. Самазадаволена разглядае сябе з усіх бакоў.

Дыктар: Зноў прыйшла восень. На мінскіх вуліцах стаяць першыя дні верасня 1955 года. Толькі што адправілі ў апошні шлях прафесара Златацветава.

Дождж. З варот могільніка выходзяць пад чорнымі парасонамі яго калегі, вучні, родныя, знаёмыя. Пад нагамі шамаціць мокрае лісце. Сярод усёй гэтай публікі, якая толькі што назаўсёды развіталася з прафесарам, адна толькі Галачка выглядае белай варонай, хоць і апранута ў чорны, жалобны гарнітур, які, дарэчы, досыць пасуе да яе светлага твару. Вочы няўцешнай удавы ўвільготнены слязой, але досыць умеранай, каб, барані божа, не папсаваць стрэлачкі павекаў ненатуральна чорнага колеру. Падмаляваныя броўкі нахмураны, але не настолькі, каб, чаго добрага, зморшчынкі сабраліся на ілбе.

— Яна, магчыма, адна з прысутных тут, каго зусім не ведалі шматлікія сябры прафесара, але наўрад ці пазнаў яе за год сумеснага жыцця і сам нябожчык.

Галачка ўся ў слязах. Стыляга панурым голасам працягвае, відаць, перарваную размову.

Пад дрэвамі даўно ўжо стаіць знаёмая нам прафесарская «Пабеда». Стыляга, адкінуўшыся на спінку пярэдняга сядзення, напявае: «Людзі гінуць за метал, за метал». Косы дождж б'е па ветравому шклу. «Дворнікі» не паспяваюць змятаць кроплі. Адчыняюцца дзверцы, у іх шмыгнула Галачка.

Зноў зала суда.

Дыктар: Справа зноў — трэці раз — слухаецца ў народным судзе. Выступае таксама трэці раз тая-ж ісціца Лілія Златацветава.

— З таго часу, як адказчыца ўступіла ў шлюб з маім бацькам, у нашай сям'і знікла спакойнае жыццё. Разам з тым пачалі таямніча знікаць рэчы і каштоўнасці з кватэры.

— Што вы выдумляеце? — узняла Галачка плечы аж да самых завушніц, — у вас-жа яшчэ і піяніна ёсць на кватэры, ды іншыя рэчы засталіся. Вядома, — дадае яна, ужо спусціўшы плечы, — істцы таксама маюць некаторае права... на некаторую долю спадчыны, — і ўкрадлівым галаском дадае, — калі яны такія ўжо бедныя. І наогул, многае, нажаль, прададзена самім нябожчыкам прафесарам. У прыватнасці, скрыпку ён прадаў за шэсць тысяч рублёў.

— Ці ведае адказчыца, што, акрамя ўсяго іншага, справа ідзе аб унікальнай скрыпцы, якой наогул няма цаны?

— Ой, што вы, што вы? — з гульлівай наіўнасцю здзіўляецца адказчыца. — Яна-ж такая нязграбная, старэнькая.

Голас з публікі: Галачка цэніць толькі старое віно. (Смех, званок суддзі).

Адвакат: А калі ўжо гаварыць мовай Карзінавай, дык за гэтую скрыпку сям'ёй прафесара заплачана дваццаць пяць тысяч рублёў, яшчэ тады, калі, мабыць, яшчэ адказчыцы на свеце не было!

— Дык гэта-ж было яшчэ да грашовай рэформы! — падхопліваецца Галачка.

Зноў рух у зале. Званок суддзі.

— Скрыпка — сэрца скрыпача, — гаворыць сведка, малады скрыпач Апанас Ігнатавіч Барысаў. — Скрыпач без скрыпкі, што чалавек без сэрца — мёртвы. Хто-ж дабраахвотна пазбавіць сябе жыцця? З адказчыцай мы, па сутнасці, пазнаёміліся вось тут, на судзе. Што магло звязаць Карзінаву з Златацветавым, калі не... меркантыльны дух?

Адказчыца (падхопліваецца з месца): Гэта паклёп! Я засталася беднай удавой...

...Вельмі багата абстаўленая кватэра Карзінавых. Пышныя дываны на сценах і на падлозе. Дарагая рыжская мэбля блішчыць, адлівае яшчэ свежым лакам. Посуд у серванце таксама іграе ўсімі колерамі, статуэткі, вазы... З уключанага прыёмніка чуецца бравурная музыка. Галачка ў яркім дарагім халаце, які пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі. Далікатна адтапырыўшы мізінчык, падбівае яна сальдо на лічыльніках.

Дыктар (з іроніяй): І вось Галачка зноў толькі бухгалтар. Яшчэ да ЗАГСа яе сэрца падказвала, што ў хуткім часе яна стане ўдавой. З першых-жа дзён сумеснага жыцця з прафесарам яна ўсё падлічыла. І вось зведзен баланс!

Галачка пад вясёлую музыку (з прыёмніка) спрытна падлічвае грошы, аблігацыі, потым хавае скрыпку.

Твар Галачкі мяняецца ў залежнасці ад абстаноўкі. Вось толькі мы бачылі яе твар — прагны, скнарысты, а цяпер ён адбівае высакароднае абурэнне на судзе, дзе працягваюць выступаць сведкі.

Сведка Берагавы (заканчвае сваю прамову на судзе): І грамадзянка Карзінава, як бачыце, з падазронай хуткасцю дасягнула сваёй мэты.

Адказчыца: Я прашу суд абараніць мяне ад абураючых наскокаў! Я яго любіла.

З залы выходзіць публіка.

— А гэта вы чыталі? Не? Дык чытайце! — крычыць чалавек з футлярам. Разгарнуўшы газету, яго таварыш гучна чытае: «Пятро Папковіч у злачынных мэтах пазнаёміўся з дзяўчынай Х. Аднойчы вечарам, пагражаючы нажом, Папковіч аграбіў дзяўчыну. Пятнаццаць гадочкаў яму далі, як лёду».

— Мала, мала далі грабежніку, — гарачыцца жанчына ў цыгейкавай футры і, заўважыўшы адказчыцу, наўмысна гучна пытаецца: — А скажыце, людзі добрыя, калі маладая грамадзяначка пускае ў ход атрутную зброю спакусы, у злачынных мэтах выходзіць замуж за старога, якому тры чвэрці да смерці, і, без нажа адправіўшы яго ў магілу, авалодвае ўсёй яго маёмасцю, — ці гэта не грабёж сярод белага дня?

Галачка, не звяртаючы ўвагі, падыйшла да «Пабеды». Малады стыляга з той-жа мефістофельскай усмешкай адкрывае перад Галачкай дзверцы і сам садзіцца побач з маладой удавой. Ён даволі ўпэўнена адпускае тормаз і бярэцца за рычажок старцёра. Абдаўшы людзей дымам, машына паімчала Галачку, на твары якой зноў зайграла тая-ж бесцырымонная ўсмешка.

А чалавек з футлярам ці то іранічна, ці то сур'ёзна заўважае:

— А з другога боку, яна ўсё-ж прафесару жонкай даводзілася, самая, так сказаць, блізкая радня...

— Радня, радня! — абураецца жанчына ў цыгейкавай футры. — Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, дык і другога знойдзе.



# Алімпійскія ігры

Грэкі яшчэ ў VIII—IX ст. да н. э. надавалі фізічнаму выхаванню выключную ўвагу. Ужо з васьмігадовага ўзросту дзеці павінны былі вучыцца прыжкам, бегу, барацьбе, плаванню, валоданню мечам і кап'ём, кулачнаму бою. Рэлігійныя святы звычайна заканчваліся спартыўнымі іграмі. Такія ігры адбываліся ў 17 месцах краіны. Найбольшай папулярнасцю карысталіся ігры ў маленькім поўднёвым гарадку Алімпія, у цудоўнай даліне ракі Алфея, паблізу свяшчэннага гаю, дзе стаяў храм вярхоўнага бога Зеўса.

Міфалагічнае паданне расказвае, што багіня Рэя, ратуючы нованароджанага Зеўса ад Кронаса (Кронас з'ядаў сваіх дзяцей), перадала яго пяці індзейскім братам, старэйшым з якіх быў Геракл. Шчасліва прыбыўшы ў Алімпію, браты наладзілі спаборніцтвы ў бегу. Перамог Геракл і быў узнагароджаны вянком з дзікай алівы. З таго часу Геракл — грэчаскі герой-поўбог незвычайнай сілы і розуму — кожныя пяць год (па колькасці братоў) праводзіў спаборніцтвы.

Алімпійскім іграм надавалася вялікае значэнне ў жыцці краіны: з 776 года да н. э. цар Іфіт і заканадаўца Лікург забаранілі войны і нелады паміж дзяржавамі на час алімпійскіх ігр; нават летазлічэнне ў Грэцыі вялося чатырохгоддзямі, якія зваліся алімпіядамі. Так званае «Свяшчэннае перамір'е» строга выконвалася на працягу 17 стагоддзяў: спецыяльна выдзеленыя людзі — «вестуны Зеўса» — звычайна ў пачатку ліпеня абвяшчалі мір і склікалі юнакоў і мужчын на спаборніцтвы.

У час ігр адбываліся нацыянальныя кірмашы, з'езды членаў грэчаскага саюза. Кожны горад-дзяржава пасылаў дэлегацыю, у склад якой уваходзілі грамадскія дзеячы, філосафы, паэты, музыканты. Ігры спрыялі аб'яднанню розных частак Грэцыі, гандлю, стварэнню агульнанацыянальнай культуры.

Працягваліся ігры пяць дзён. Перад пачаткам спаборніцтва рабіліся ахвярапрынашэнні, абрад асвячэння коп'яў, дыскаў, калясніц, праводзіліся розныя працэсіі, выконваліся гімны багам. У гонар пераможцаў наладжваліся грамадскія банкетаванні. Кожнай алімпіядзе, апрача парадкавага нумару, надавалася імя пераможцы папярэдніх ігр. Пераможцам пры жыцці рабілі статуі з мармуру ў свяшчэнным гаі каля храма Зеўса. Імёны пераможцаў заносіліся ў свяшчэнныя табліцы ў храме Зеўса. Трыумфальныя сустрэчы чакалі пераможцаў і на іх радзіме. Там яны атрымлівалі лепшыя месцы ў тэатрах, на грамадскіх сходах, ім вызначалася пажыццёвая матэрыяльная дапамога. Слава пра іх захоўвалася на стагоддзі ў песнях і легендах.

У праграму алімпійскіх ігр уваходзілі бег на кароткія, сярэднія і доўгія дыстанцыі, бег у поўным узбраенні, барацьба, кулачны бой, злучэнне барацьбы з кулачным боем (панкрацыон), кіданне дыску і кап'я, скачкі, бег на калясніцах, выступленні музыкантаў і паэтаў.

Суддзі ў колькасці 10 чалавек вызначаліся з ліку самых паважаных грамадзян краіны. Яны давалі клятву ў справядлівасці сваіх прысудаў і на працягу 10 месяцаў да ігр вывучалі зводы спецыяльных законаў, што захоўваліся ў храме Зеўса.

Да заваявання Грэцыі рымлянамі к удзелу ў іграх дапускаліся толькі грэкі. Потым сталі дапускацца рымляне, а яшчэ пазней і іншаземцы.

1170 год без перапынку праводзіліся ігры ў Алімпіі, стольні-ж год гарэў свяшчэнны агонь, які запаліў Геракл. 293 алімпіяды было за гэты час. У 393 годзе н. э. імператар Феадосі, прыхільнік хрысціянскага вучэння, які адмаўляў зямныя даброты і неабходнасць фізічнага ўдасканалення, забараніў алімпійскія ігры таго года. Напад готаў на Пелапанес у 395 годзе, эдыкт Феадосія II у 426 годзе аб знішчэнні язычаскіх храмаў, а потым землетрасенне ператварылі Алімпію з усімі яе помнікамі культуры і мастацтва грэчаскага народа ў голую раўніну, а мутныя патокі Кладэя заносілі ілам і пяском руіны стадыёна і храма Зеўса. Пустыннымі і невядомымі заставаліся гэтыя месцы аж да 1829 года, пакуль французская экспедыцыя не знайшла рэшткі храма, скульптуры і не ўзнавіла планы мясцовасці і пабудоў. Раскопкі выклікалі незвычайную цікавасць да алімпійскіх ігр, і ў 1894 годзе ў Сарбоне па ініцыятыве вядомага французскага вучонага археолага і спартсмена П'ера дэ Кубертэна быў скліканы інтэрнацыянальны кангрэс з мэтай аб'яднання спартсменаў Старога і Новага свету. На ім прысутнічалі прадстаўнікі 34 краін, у тым ліку і руская. 23 ліпеня 1894 года было ўрачыста абвешчана ўзнаўленне алімпійскіх ігр, а выбранаму Міжнароднаму алімпійскаму камітэту з прадстаўнікоў 11 краін (і Расіі ў тым ліку) была даручана арганізацыя першых сучасных алімпійскіх ігр.

У 1896 годзе ў Афінах пры ўдзеле лепшых спартсменаў і шматлікіх гледачоў адбыліся першыя ігры, якія мелі выключнае значэнне ў развіцці спорту ўсіх краін.

Царская Расія не падтрымала спартсменаў у паездцы на першыя тры алімпійскія ігры. Толькі ў 1903 годзе невялікая група рускіх спартсменаў-энтузіястаў прысутнічала на іграх у Лондане. Залаты медаль прывёз на радзіму Н. А. Панін (фігурнае катанне на каньках), срэбраныя — барцы Н. Арлоў (лёгкая вага) і А. Пятроў (цяжкая вага).

У іграх 1912 года (Стакгольм) прымала ўдзел 169 рускіх спартсменаў. Яны падзялілі з Венгрыяй 15—16 месцы. Ігры 1916 года ў Берліне не адбыліся — Еўропа была ахоплена полымем першай сусветнай вайны.

У 1920 годзе на алімпійскія ігры, якія праходзілі ў Антверпене, Расія не атрымала запрашэння з-за палітыкі байкоту нашай Савецкай краіны. Спартыўны рух стаў выкарыстоўвацца з антынароднымі мэтамі, асабліва XI алімпійскія ігры ў Берліне ў 1936 годзе, дзе ігры былі ператвораны па сутнасці ў прафашысцкую дэманстрацыю, і таму савецкія спартсмены самі адмовіліся прымаць у іх удзел.

Карэнным чынам змянілася становішча толькі пасля другой сусветнай вайны, калі савецкі спорт пашырыў свае міжнародныя сувязі і выйшаў на шырокую арэну.

Спартсмены Фінляндыі, Швецыі і іншых краін звярнуліся з заклікам ператварыць XV алімпійскія ігры (1952 год) у свята дружбы і міру. Савецкія спартсмены далі згоду прыняць удзел у гэтай алімпіядзе. Сваімі выступленнямі ў Хельсінкі яны паказалі дасягненні савецкага спорту, падзяліўшы першае і другое агульнакамандныя месцы з ЗША.

22 лістапада гэтага года ў Мельбурне (другім па велічыні горадзе Аўстраліі) адкрыліся XVI алімпійскія ігры па праграме 16 алімпійскіх відаў спорту. Шырокі ўдзел спартсменаў СССР і краін народнай дэмакратыі ў гэтых іграх спрыяе ператварэнню іх у сапраўднае свята міру і дружбы.

Н. МАГІЛЬНЫ.

# Мастак Валянцін Ванковіч

Як польскаму, так і беларускаму выяўленчаму мастацтву належыць імя вядомага мастака першай паловы XIX стагоддзя Валянціна Ванковіча. Нажаль, гэтае імя незаслужана забыта нашымі гісторыкамі і даследчыкамі.

В. Ванковіч нарадзіўся ў 1799 (па іншых крыніцах у 1800) годзе ў маёнтку Калужыцы былога Ігуменскага павету (цяпер Чэрвеньскі раён). Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Мінску. Затым будучы мастак паступіў у Полацкую духоўную калегію. Ужо тады вызначыліся схільнасці Ванковіча да малявання. Гэтыя схільнасці заўважылі і развілі выкладчыкі малявання Якаў Перлінг і Якаў Журдэн. Пасля заканчэння калегіі В. Ванковіч разам са сваім братам працягваў адукацыю ў Полацкай акадэміі. Там выкладчык Юзафат Залескі прывіў маладому мастаку любоў да рускай літаратуры.

У 1818 годзе Ванковіч паступіў у Віленскі ўніверсітэт, каб павышаць сваё майстэрства пад кіраўніцтвам вядомага мастака Рустэма. Аднак, як адзначаецца ў мемуарах В. Смяхоўскага, Ванковіч хутка пераўзышоў свайго настаўніка, а яго палотны «па свайму рысунку, святлу,ценю, фарбах і мяккасці выканання не заставалі жадаць лепшага». У гэты час мастак напісаў некалькі пейзажаў горада Вільні, два партрэты вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, карціну «Філантэт і Неапталем на востраве «Лемнас», якая атрымала першую прэмію на выстаўцы 1822 года.

Па рашэнню вучонага савета Віленскага ўніверсітэта В. Ванковіч у 1824 годзе быў накіраваны ў Пецербургскую акадэмію. Там мастак зблізіўся з многімі выдатнымі дзеячамі рускай літаратуры і культуры. У ліку знаёмых Ванковіча былі А. С. Пушкін, А. Міцкевіч, мастакі Кіпрэнскі і Олешкевіч. У акадэміі мастак слухаў лекцыі вядомых прафесараў Шэбуева і Егорава. Пад іх кіраўніцтвам Ванковіч звярнуўся да тэмы гераічнага мінулага славянскіх народаў. Асабліва высока было ацэнена палатно «Учынак маладога кіеўляніна».

Аднак шырокую вядомасць В. Ванковічу прынёс партрэт Адама Міцкевіча (1828). Мастак паказаў задумёнага польскага паэта на фоне дзікіх крымскіх скал. Ёсць звесткі, што Ванковіч стварыў таксама партрэт А. С. Пушкіна. С. Маравецкі пісаў, што вялікі рускі паэт уяўляў на гэтым партрэце «мужчыну, апранутага ў плашч з падкладкай у клетку; ён стаяў у задуме пад цяністым дрэвам... Пушкін быў падобны, як дзве кроплі вады». Нажаль, гэты партрэт загінуў падчас паўстання 1863 года.

У 30-я гады В. Ванковіч жыве ў Мінску. Тут ён прымае ўдзел у музычных вечарах, якія арганізоўваліся вядомым кампазітарам Станіславам Манюшкам. Ля Мінска, у Сляпянцы, якая была родавым памесцем мастака, ён стварае невялікую карцінную галерэю. У Мінску Ванковіч працаваў над карцінай «Напалеон у 1812 годзе».

У апошнія гады свайго жыцця В. Ванковіч трапіў пад уплыў вядомага містыка і шарлатана Андрэя Таўянскага. Гэта абумовіла творчы крызіс мастака. У 1840 годзе Ванковіч пакінуў Мінск і пасяліўся ў Парыжы, дзе і памёр у 1842 годзе.

Абавязак беларускіх мастацтвазнаўцаў зацікавіцца і грунтоўна даследаваць жыццёвы і творчы шлях Валянціна Ванковіча.

А. МАЛЬДЗІС.

# *Раскопкі старажытнага беларускага горада*

У Талачынскім раёне ля вёскі Друцк размешчана найвялікшае ў Беларусі замчышча. Калісьці тут быў горад. Ён упамінаецца ў летапісу больш 850 год назад, гэта значыць, раней такіх гарадоў, як Масква, Пінск, Барысаў, Мазыр і іншыя. Упамінанне аб Друцку ёсць і ў «Павучанні Уладзіміра Манамаха».

У XI — XII стагоддзі Друцк уваходзіў у склад Полацкай зямлі, быў адным з дзевяці яе ўдзелаў. Затым ён належаў да Мінскага княства, а пасля складаў асобны ўдзел і адыгрываў значную ролю ў міжусобіцах патомкаў князя полацкага Усяслава з патомкамі кіеўскага князя Яраслава Уладзіміравіча.

У 1116 годзе Друцк быў моцна разбураны сынамі кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха Давідам і Яраполкам («а Давыд с Ярополком взя Дрьютеск на щит», — гаворыцца ў «Повести временных лет»). З Іпацьеўскага летапісу вядома, што насустрач Рагвольду Барысавічу — аднаму з прэтэндэнтаў на полацкі прастол — выехала «боле 300 людий Дрьючан и Полочан» (1159 год).

У сярэдзіне XII стагоддзя Друцк быў захоплены літоўскімі феадаламі. Але ў іх усё яшчэ заставаліся свае князі аж да 1508 года. У гэтым годзе яны перайшлі на службу да маскоўскіх князёў. Пасля гэтага значэнне Друцка пачало падаць, род яго князёў раздзяліўся на дзве галіны — князёў Друцкіх-Любецкіх і Друцкіх-Сакалінскіх.

У час барацьбы рускіх з літоўцамі і палякамі Друцк, неаднаразова пераходзячы з адных рук у другія, моцна разбураўся. Асабліва вялікія разбурэнні Друцк і яго ваколіцы панеслі ў 1509, 1514, 1524 і 1535 гг.

Адсюль зразумела, чаму Друцк, калісьці адзін з буйнейшых беларускіх гарадоў, з цягам часу перастаў называцца горадам і стаў звычайнай вёскай.

Замчышча, якое засталося, на працягу многіх гадоў і вякоў ляжала некранутым. І вось нядаўна ў Друцк прыбыла першая археалагічная экспедыцыя, якую ўзначаліў навуковы супрацоўнік Акадэміі навук СССР Л. В. Аляксееў. На працягу трох тыдняў экспедыцыя праводзіла раскопкі старажытнага замчышча. Знойдзены сотні цікавых рэчаў — шкляныя каралі, розных колераў бранзалеты, гліняныя прасліцы, касцяныя грабяні, наканечнікі стрэл і коп'яў, розныя аздобы з бронзы, медзі і срэбра, замкі, ключы, тачыльныя камні і г.д.На чарапах глінянага посуду захаваўся арнамент. Знойдзеныя рэчы сведчаць аб шматбаковым жыцці старажытнага горада: яго жыхары, апрача земляробства, жывёлагадоўлі і палявання, займаліся рознымі рамёствамі, у тым ліку ювелірным, косцерэзным, ткацкім, ганчарным, кавальскім.

Мясцовыя жыхары былі вельмі зацікаўлены работай экспедыцыі. Яны дапамагалі раскопваць замчышча, у якім многа вякоў назад жылі і змагаліся іхнія продкі. Апрача таго, яны перадалі экспедыцыі некалькі адшліфаваных каменных сякер, якія былі знойдзены тут раней. Як маркуюць удзельнікі археалагічнай экспедыцыі, старажытны горад быў пабудаваны ў IV—II тысячагоддзях да новай эры, калі тут была стаянка першабытнага чалавека.

Экспедыцыяй было ўскрыта 200 квадратных метраў культурнага пласту з паглыбленнем у яго на 1 метр. Гэта толькі пачатак вялікай работы на друцкім гарадзішчы. Работы будуць праводзіцца на працягу 5—6 год, што дасць магчымасць расшыфраваць яшчэ адну цікавую старонку з гісторыі продкаў беларускага народа.

Г. КАРАЛЁЎ,
студэнт БДУ.

Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ
Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.XI.56 г. Падпісана да друку 1.XII.56 г.

АТ 01302. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 814.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.





# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Мы змяшчаем партрэты чатырох вядомых беларускіх кампазітараў і чатырох паэтаў, аўтараў многіх папулярных песень. Тут-жа друкуюцца ўрыўкі з чатырох напісаных імі песень.

Назавіце прозвішчы і ўкажыце аўтараў кожнага з гэтых твораў.

























